ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 26 (2584)

2 ліпеня 1998 г.

Выдаецца з 1955 г.

Цана 2000 рублёў.

ХТО ХОЧА СТАЦЬ УРАЧОМ

## ВУЧАЦЦА СВАЕ, ВУЧАЦЦА І ЧУЖЫЯ

У Беларусі дзейнічаюць чатыры медыцынскія вышэйшыя навучальныя ўстановы, куды ў гэтым годзе будзе прынята 1 100 студэнтаў, з іх 499 — у Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут, самы буйны з медінстытутаў краіны, якому сёлета споўнілася 77 гадоў. Аб перспектывах падрыхтоўкі будучых урачоў гаворыць яго рэктар Павел БЕСПАЛЬЧУК.

**— Павел Іванавіч, што такое Мінскі дзяржаўны медыцынскі інстытут сёння?**

— Сёння ў нас ідзе прыём студэнтаў на пяць факультэтаў, гэта самая вялікая колькасць факультэтаў сярод падобных вышэйшых навучальных устаноў Беларусі. На лячэбны факультэт будзе прынята 190 студэнтаў, на педыятрычны — 100, на адзіны ў краіне стаматалагічны факультэт таксама будзе прынята 100 чалавек, на медыка-прафілактычны — 70.

**— Нядаўна ў вас адкрыты ваенна-медыцынскі факультэт. Чым гэта выклікана!**

— Такі факультэт існуе ўсяго тры гады. Раней будучыя ўрачы, што вырашылі стаць ваеннымі медыкамі, пасля чацвёртага курса ехалі ў Ленінград і Куйбышаў, дзе рыхтавалі ўрачоў па гэтай спецыяльнасці. Пасля таго як Беларусь набыла самастойнасць, рыхтаваць студэнтаў за межамі рэспублікі стала нявыгадна, і такі факультэт быў адкрыты ў нашым інстытуце. У першы год мы набралі на яго грамадзян Беларусі, якія вучыліся па гэтай спецыяльнасці ў іншых рэспубліках СНД, потым наборы ажыццяўляліся з выпускнікоў беларускіх школ і суvoраўскага вучылішча. Сёлета на ваенна-медыцынскі факультэт будзе прынята 39 чалавек.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

АДПАЧЫНАК І АЗДАРАЎЛЕННЕ



## ЛЕТА — ГЭТА ЎЖО САМО ПА САБЕ ЗДОРАВА

Канешне, лета — гэта ўжо само па сабе вельмі добра: сонца, зеляніна, болей-меней, але ўсё ж такі цёпла... Праўда, час ад часу даводзіцца чуць: а я і не заўважыў, як лета прамільгнула... Звычайна так кажуць тыя, хто не здолеў знайсці часу ці магчымасці для адпачынку. Вельмі шкада, але зараз нямала грамадзян Беларусі вымушаны скараціць або і ўвогуле адкласці летнюю "перадышку" ад паўсядзённых турбот, як кажуць, "да лепшых часоў": эканамічныя і сацыяльныя ўмовы прымушаюць. Аднак многія ўсё ж імкнуцца знайсці якое-небудзь выйсце, асабліва ў адносінах да дзяцей. Тут традыцыйна ў найлепшым становішчы аказваюцца тыя, хто мае блізкіх сваякоў (звычайна, бацькоў) у вёсцы: і дзеці будуць уладжаны, і самім ёсць куды падацца з горада. Значную колькасць гараджан апошнім часам добра выручаюць дачы: загарадныя ўчасткі па 4—8 сотак, разараныя пад агароды, з невялікімі фруктовымі садкамі і немудрагелістымі пабудовамі пад жытло. Але там больш працуюць, чым адпачываюць, можа таму дачы не вельмі любімае месца ў моладзі, якая не ўяўляе сабе летній вольніцы без вадаёмаў, пляжаў, лясных пікнікоў, спартыўных гульняў... Для гэтага вакол усіх вялікіх гарадоў створаны спецыяльныя зоны адпачынку. Толькі, на жаль, асаблівай добраупарадкаванасцю яны не вызначаюцца, таму там кожны арганізуе ўласны адпачынак, як сам здолее, бо нават бутэльку вады ці піва купіць у такіх месцах — праблема.

Апошнім часам з'явілася невялічкая катэгорыя беларусаў, што ў стане дазволіць сабе далёкае падарожжа і як вынік адпачынак значна больш якасны — напрыклад, на міжземнаморскім узбярэжжы Турцыі, Грэцыі, Кіпра, Іспа-

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**Стогадовы юбілей адзначыў віцяблянін Антон МІСУРАГІН. А яшчэ два гады назад ён кожную раніцу спяшаўся да праходнай станкабудаўнічага завода "Вістан", дзе прарабіў звыш 40 гадоў. Сталяры і цесляры будаўнічага цэха, дзе А. МІСУРАГІН працаваў апошнія гады, не забываюць добрага Фаміча. І ў дзень юбілею за святочным сталом сабраліся не толькі яго сваякі.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

НАТАТКІ АБ VII ГАРЭЦКІХ ЧЫТАННЯХ

## ДУХОЎНАЯ СПАДЧЫНА

*О мой край!*
*О мой шлях!*
**Максім ГАРЭЦКІ.**

На пачатку чэрвеня ў Мінску, у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, праходзілі VII Гарэцкія чытанні. Ініцыятары — Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Рэспубліканскі фонд імя братоў Гарэцкіх. Прадстаўнікі навукі і культуры, нашчадкі і сябры Максіма Гарэцкага, гісторыкі, геолагі і літаратары, работнікі музеяў і архіваў, пісьменнікі і паэты, настаўнікі, студэнты і вучні сабраліся з усёй Беларусі, а таксама прыехалі з Масквы, Ленінграда, Смаленска, каб ушанаваць памяць класіка беларускай літаратуры з нагоды 105-й гадавіны з дня яго нараджэння і 60-годдзя трагічнай гібелі.

Чытанні былі надзвычай прадстаўнічымі. У праграму было ўключана 60 дакладаў, у якіх разглядаліся тэарэтычныя, гістарычныя, светапоглядныя, жанравыя асаблівасці творчасці М. Гарэцкага, асаблівасці мовы пісьменніка, пытанні вывучэння творчасці М. Гарэцкага ў школе, ВНУ, вынікі цікавых пошукаў і архіўных знаходак гарэцказнаўцаў. Дырэктар Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь Леанід Хадкевіч гасцінна прывітаў удзельнікаў VII Гарэцкіх чытанняў. Трэба адзначыць, што навукова-асветніцкі аддзел Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, яго загадчык Зінаіда Кучар праводзяць вялікую работу па вывучэнню і прапагандзе творчасці М. Гарэцкага, па арганізацыі Гарэцкіх чытанняў.

У першы дзень чытанняў адбыліся пленарнае пасяджэнне і праца секцый. На пленарным пасяджэнні старшынствуючымі былі акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі і член-карэспандэнт НАНБ Міхась Мушынскі. Удзельнікі чытанняў працавалі натхнёна, творча, нястомна. Асаблівую цікавасць выклікалі ў слухачоў даклады, прачытаныя на пленарным пасяджэнні. Акадэмік НАНБ Р. Гарэцкі ў дакладзе "Г. Гарэцкі — дырэктар БелНДІ лясной і сельскай гаспадаркі імя У. І. Леніна" асвятліў гераічныя і трагічныя старонкі жыцця свайго бацькі Гаўрылы Гарэцкага, які ў 20-я гады змагаўся за беларусізацыю Акадэміі навук, быў членам ЦВК, у верасні 1927 года пабываў у камандзіроўцы ў Нямеччыне і Даніі, вызначыў этнічныя межы Беларусі і ўжо ў той час вельмі слушна заўважыў, што беларусы пераважваюць працэс асіміляцыі надзвычайнай сілы. У гады таталітарнага сталінскага рэжыму Гаўрылу Гарэцкага далучылі да буржуазных нацыяналістаў, "ворагаў народа", і арышта-

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

ЗНЕШНІ ГАНДАЛЬ

## ГАЛОЎНЫ ПАРТНЁР — РАСІЯ

Аб'ём знешняга гандлю Беларусі ў студзені-красавіку 1998 года склаў у бягучых цэнах 5 390,8 мільёна долараў ЗША, павялічыўшыся ў параўнанні з аналагічным леташнім перыядам на 16,8 працэнта.

У тым ліку экспарт — 2 368,7 мільёна долараў (рост на 16,4 працэнта), імпарт — 3 022,1 мільёна (на 17,1 працэнта больш). Сальда знешнегандлёвага абароту склалася адмоўнае ў памеры 653,4 мільёна долараў ЗША, павялічыўшыся за красавік на 81 мільён. Гэта інфармацыя прадастаўлена БелаПАН Міністэрствам статыстыкі і аналізу рэспублікі.

Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі Беларусі ў студзені-красавіку 1998 года былі Расія (61,9 працэнта ад усяго аб'ёму знешнегандлёвага абароту), Украіна (7,2 працэнта), Германія (5), Польшча (2,7), Літва (2), а таксама ЗША і Італія (па 1,6 працэнта). Прычым звяртае на сябе ўвагу тэндэнцыя да павелічэння ўдзельнай вагі гандлю з Расіяй і адначасовага зніжэння долі іншых асноўных знешнегандлёвых партнёраў. Для параўнання: у студзені-красавіку 1997 года на долю гандлю з Расіяй прыпадала 55 працэнтаў усяго аб'ёму таваравабароту, на долю Украіны — 10,4, Германіі — 6,6, Польшчы — 2,9, Літвы — 2,4 працэнта.

ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ

Радзільны дом Ганцавіцкага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання можа пахваліцца сучасным абсталяваннем і асналяшчэннем, а галоўнае — чулымі адносінамі да пацыентаў.



НА ЗДЫМКУ: ардынатар раддома Валянціна СТЭЛЬМАШОК і старшая акушэрка Лілія ЮРЭТКА за многія гады працы дапамаглі з'явіцца на свет сотням немаўлят.

Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

НА ФРАНЦУЗСКУЮ СТЫПЕНДЫЮ

## ПРАДОЎЖЫЦЬ АДУКАЦЫЮ Ў ПАРЫЖЫ

Пасля бліскучай абароны дыплома на факультэце філасофіі Белдзяржуніверсітэта яшчэ з адной значнай падзеяй у жыцці павіншавалі выпускніцу брэсцкай школы № 15 Вольгу Карпушыну супрацоўнікі французскага пасольства ў Мінску. Яны паведамілі ёй, што па рашэнні ЮНЕСКА ёй прадастаўлена стыпендыя французскага ўрада, на якую яна зможа прадоўжыць адукацыю ў Парыжскім універсітэце.

МАЛАДЫЯ КАДРЫ



У саўгасе "Капаткевічы" Петрыкаўскага раёна вытворчасць умацоўваюць за кошт прыцягнення новых кадраў у першую чаргу жыллём. Нягледзячы на цяжкасці, пабудавалі няданя пяць дамоў, дзе ўжо размясціліся маладыя сем'і, у тым ліку і прыезджыя.

НА ЗДЫМКУ: жыллё ў саўгасе атрымала сям'я КІЛІМІЧЭНКА, што прыехала з Малдовы. Марыя Апанасаўна ўзначаліла свінаферму, на якой працуе і Сцяпан Васільевіч.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.

ЭЛІТНЫ ТЭЛЕВІЗАР

## «ГАРЫЗОНТ» ДЛЯ БАГАТЫХ

Вытворчае аб'яднанне "Гарызонт" пачынае серыйную вытворчасць элітных тэлевізараў сёмага пакалення. Паводле даных маркетынгавага даследавання, праведзенага эканамічнай службай прадпрыемства, колькасць патэнцыяльных пакупнікоў гэтай тэхнікі будзе абмежавана вузкім колам "новых рускіх".

Лічбавыя шырокаэкранныя тэлепрыёмнікі на сённяшні дзень і па цане, і па якасці адносяцца да прадметаў раскошы. Па разліках экспертаў, на ўнутраным рынку таможнага саюза купіць "хатні кінатэатр" могуць дазволіць сабе не больш 11 працэнтаў расіян і беларусаў. Гэта каля 10 мільёнаў чалавек з сярэднямесячным даходам ад 3 600 да 36 000 долараў ЗША. Пры гэтым мяркуецца, што агульны аб'ём продажу тэлетэхнікі ўсіх мадэлей у 1998 годзе складзе прыкладна 7,5 мільёна адзінак.

СТЫХІЯ

## СМЕРЧ НАД ВАСЬКАЎКАЙ

Чарговы ўдар стыхіі абрынуўся на Палессе. У пятніцу вечарам 21 чэрвеня над Мазырскім раёнам з поўдня на поўнач пранёсся жудасны смерч. У паласе шырынёю тры з паловай і даўжынёю 20 кіламетраў смерч нішчыў усё запар: паваліў 900 гектараў лесу, вывеў са строю 50 кіламетраў ліній электраперадач...

У вёсцы Васькаўка ўшчэнт разбурана 6 хат, усе надворныя пабудовы. У 53 дамах не засталося ніводнай шыбы, пашкоджаны амаль усе дахі.

Стыхія прайшлася па вёсцы Гостаў і дачным пасёлку Вялікае Зімоўе.

Шквальны вецер і лівні не абышлі і Акцябрскі раён. Без электрычнасці заставаліся некалькі дзён 36 населеных пунктаў і 18 ферм. Пашкоджаны дахі на 29 пабудовах, у тым ліку 12 прыватных. Падтоплены 231 падворак, і найбольш у райцэнтры, вёсках Лаўстыкі, Дуброва, Кавалі. Вада захліснула 4,7 тысячы гектараў пасеваў. Чацвёртая частка з іх прыпадае на асабістыя гаспадаркі вяскоўцаў.

Як паведаміў сакратар абласной камісіі па надзвычайных сітуацыях Васіль Шамонін, за тыдзень, пачынаючы з 13 чэрвеня, стыхія нанесла Гомельшчыне ўрон больш як на 60 мільярдаў рублёў. Страты ад смерчу над Мазырскім раёнам яшчэ падлічваюцца.

РЭПІНСКІ ПЛЕНЭР



Трэці міжнародны дзіцячы Рэпінскі пленэр завяршыўся ў Жалезняках пад Віцебскам. У ім прынялі ўдзел навучэнцы віцебскіх мастацкай школы № 1 і школы мастацтваў, Аршанскай школы мастацтваў, мастацкіх школ Полацка і Наваполацка, а таксама іх равеснікі з нямецкага горада Ферль.

За час пленэра дзеці наведалі славутыя мясціны Віцебска і Полацка, працавалі на эцюдах, стварылі мноства цікавых работ. Па выніках пленэра была адкрыта выстава.

НА ЗДЫМКУ: удзельнікі пленэра са сваімі работамі.

Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.

МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ

## У ДЗЯЦЕЙ СТАЛА БОЛЬШ АБНОВАК

На 19,9 працэнта павялічыўся аб'ём прадукцыі, выпушчанай лёгкай прамысловасцю рэспублікі ў студзені-маі гэтага года, у параўнанні з адпаведным перыядам леташняга.

Як паведамілі БелТА ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу, выраб баваўняных тканін вырас у 1,8 раза. Парадавала лёгкая прамысловасць беларускіх дзяцей. Выпуск дзіцячых трыкатажных вырабаў перавысіў мінулагодні паказчык на 41,1 працэнта.

Расшырэнне асартыменту адзення, тканін, абутку на прылаўках магазінаў прывяло да павелічэння аб'ёму рэалізаванай прадукцыі. Так, продаж ільняных і баваўняных тканін за першыя пяць месяцаў гэтага года вырас адпаведна на 13 і 38 працэнтаў, а панчошна-шкарпэтачных вырабаў, абутку, адзення і бялізны — на 53 і 79 працэнтаў.

НА КОНКУРСЕ Ў БУХАРЭСЦЕ

## ПЕРАМОЖЦЫ "ПРА ПІЯНА"

Радасная вестка з Бухарэста прыйшла ў Рэспубліканскі музычны каледж пры Беларускай акадэміі музыкі.

Тры першыя прэміі дасталіся юным выканаўцам з Беларусі на міжнародным конкурсе маладых піяністаў "Пра піяна", які праходзіў у сталіцы Румыніі з 14 па 18 чэрвеня. Аднак сярод лаўрэатаў гэтага спаборніцтва ёсць яшчэ адна прадстаўніца нашай фартэпіяннай школы: трэцяе месца заняла 16-гадовая Дар'я Мароз.

Паводле слоў намесніка дырэктара каледжа Ларысы Патапенка, практычна ва ўсіх хлопчыкаў і дзяўчынак, якія прадстаўлялі Беларусь на румынскім конкурсе, за плячамі ўжо ёсць перамогі. Толькі Міша Мацак, якому ўсяго 8 гадоў, заваяваў узнагароду ўпершыню.

З ПРАВІНЦЫІ

## «ТЭАТРАЛЬНЫЯ ВЕЧАРЫ» КРАСНАПОЛЛЯ

Сапраўдным падарункам сталі для жыхароў Краснапольскага раёна "Тэатральныя вечары", прысвечаныя 80-годдзю мясцовага народнага тэатра. На яго юбілей сабраліся народныя тэатры з Магілёва, Асіповіч і Бялынiч, а таксама госці з Расіі — народны тэатр клуба чыгуначнікаў і Тэатр юнага гледача з горада Вязьмы.

На працягу чатырох дзён яны паказвалі свае лепшыя пастаноўкі ў раённым цэнтры і ў сельскіх клубах. Магілёўскія артысты прыехалі са спектаклем "Стогн душы", пастаўленым па аповесці Максіма Гарэцкага "Антон", калектыў з Асіповіч — з "Лявонiхай на арбіце" Андрэя Макаёнка. Вялікую цікавасць выклікала расійская пастаноўка "Не было ні граша, ды раптам алтын" па п'есе Аляксандра Астроўскага.

Сам тэатр-юбіляр прадставіў у рамках "Тэатральных вечароў" дзве работы — прэм'ерны спектакль "Несцерка" па п'есе Віталя Вольскага і "Суд" Уладзіслава Галубка. Калектыву ўручана ганаровая грамата Міністэрства культуры Беларусі, адзначаны таксама заслугі асобных рэжысёраў і акцёраў. Свае віншаванні тэатру прыслалі кіраўнікі мясцовых органаў улады.

БОРТНІЦТВА



Ляхавіцкі раён у Брэсцкай вобласці — самы мядовы. Тут 560 пчоласямей — у калгасах і саўгасах і 3 500 — у асабістым карыстанні. У многіх вёсках бортніцтва як рамяство перадаецца з пакалення ў пакаленне.

Пройдзе тыдзень-другі — і пачнецца першы медазбор гэтага года. А пакуль працуюць пчолы, працуюць і людзі, якія даглядаюць вуллі.

НА ЗДЫМКУ: Сцяпан ПІШЧ з вёскі Мазуркі і сам не ведае, у якім пакаленні ён пчаляр. Яму вуллі засталіся ад дзеда і бацькі, а цяпер і сам расказвае пра пчол любімаму ўнуку Сцёпку.

Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

АДУСЮЛЬ ПАКРЫСЕ

УРЭГУЛЯВАНЫЯ гандлёвыя адносіны Беларусь мае сёння з 40 краінамі. Цяпер вядуцца перамовы аб далучэнні рэспублікі да Сусветнай гандлёвай арганізацыі.

ДА ДНЯ Рэспублікі, які адзначаецца цяпер 3 ліпеня, сёлета ўлады Беларусі зрабілі прыемны падарунак ветэранам. Больш як 310 тысяч удзельнікаў і інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны, Герояў Савецкага Саюза, сем'яў, якія страцілі карміцеля ў гады вайны, атрымалі ад дзяржавы матэрыяльную дапамогу.

У СЯРЭДНІМ на 17,5 працэнта павялічацца з 1 ліпеня памеры пенсій у Беларусі. Сярэдні памер пенсіі цяпер складзе 1 мільён 820 тысяч рублёў; максімальная пенсія павялічыцца на 18 працэнтаў і дасягне 2 мільёнаў 190 тысяч рублёў.

ПАВОДЛЕ паведамлення Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, сярэдняя налічаная заработная плата рабочых і служачых склала ў маі 4 085 679 рублёў (у красавіку — 3 897 989 рублёў) і павялічылася ў параўнанні з маем 1997 года ў 1,9 раза.

ЧАСОВЫ Паверыны ў справах Дзяржавы Ізраіль у Беларусі Марцін Пелед-Флакс уручыў медалі "Праведнік народаў свету". Іх атрымалі яшчэ пяць жыхароў Мінска, якія ратавалі яўрэяў у гады вайны ад фашысцкага праследавання.

У ДЗІВІНЕ, што ў Кобрынскім раёне Брэсцкай вобласці, будуецца дом для дзяцей-сірот. Асабістым куратарам будаўніцтва, якое вядзецца на сродкі дабрачынных арганізацый Люксембурга, з'яўляецца Марыя-Тэрэза, прынцэса Люксембургская. Увосень прынцэса мае намер наведаць Беларусь і прысутнічаць на адкрыцці дома для дзяцей-сірот.

У СТАЛІЦЫ Беларусі Мінску сёння пражывае 1 мільён 700 тысяч чалавек. Штогод мінчан павялічваецца на 4—5 тысяч.

ЯК СВЕДЧАЦЬ афіцыйныя даныя, жыхары Беларусі маюць у сваім асабістым карыстанні каля 1 мільёна аўтамабіляў. Свая машына ёсць у 40 працэнтаў беларускіх сямей.

# ЛЕТА — ГЭТА ЎЖО САМО ПА САБЕ ЗДОРАВА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

ніі г. д. Да іх паслуг — шэраг айчынных турыстычных фірм, якія прапануюць увесь курортны спектр — ад "таннай" Балгарыі да далёкіх астравоў. Звычайна 10—12 дзён, праведзеных у трох-, чатырохзорачных атэлях дзе-небудзь на Міжземным моры з паўпансіёнам, авіябілетамі ў абодва бакі каштуюць ад 400 да 800 долараў ЗША ў залежнасці ад сезона, прэстыжнасці краіны, камфартабельнасці гасцініцы. Знаходзіцца попыт, праўда, адзінкавы, і на эксклюзіўныя экзатычныя туры, калі за пуцёўку трэба выкласці 2—3 тысячы долараў. Практыкуецца і дзіцячы замежны турызм, звычайна ў складзе груп — часцей у Чэхію і Балгарыю (170—250 долараў ЗША за 10—15 дзён).

Але далёкія замежныя падарожжы дасягальныя для мізэрнай колькасці беларусаў. Іншыя лічаць за вялікае шчасце атрымаць па месцы працы пуцёўку для дзіцяці ў мясцовы загарадны летні лагер (раней іх называлі піянерскімі), а для сябе — у дом адпачынку. Вось толькі з кожным годам зрабіць гэта цяжэй і цяжэй.

Сёлета функцыя размеркавання нешматлікіх пуцёвак на адпачынак і санаторна-курортнае лячэнне перайшла ад мясцовых прафсаюзных камітэтаў да новых дзяржаўных структур — камісій па аздараўленні, утвораных рэспубліканскім фондам "Здароўе". Колькасная разнарадка — вельмі жорсткая. Напрыклад, на Мінскі завод аўтаматычных ліній, дзе 2 200 працуючых, на трэці, летні, квартал па так званай квоце выдзелена 8 пуцёвак у санаторыі, практычна заусёды мясцовыя, беларускія. Поўны кошт адной такой пуцёўкі — 7—9 мільёнаў беларускіх рублёў (афіцыйны абменны курс — 50 тысяч рублёў за 1 долар ЗША), у ліпені-жніўні чакаецца, што можа быць і даражэйшы — да 12 мільёнаў. За гэтыя грошы прадастаўляецца адпачынак на працягу 20 дзён у двух-трохмесных нумарах, трохразовае харчаванне, лячэнне. Але ўладальнік пуцёўкі аплачвае з уласнай кішэні толькі ад 10 да 30 працэнтаў яе намінальнага кошту. Асноўную частку кампенсуе вышэйзгаданы фонд "Здароўе", якому на гэтыя мэты адлічваюцца сродкі з дзяржаўнага фонду сацыяльнага забеспячэння (ён фарміруецца ад пералічэнняў пэўнага працэнта ад заработнай платы ўсіх працуючых).

Што тычыцца дзіцячага адпачынку на заводзе аўтаматычных ліній, то вось ужо 40 год ён, як, дарэчы, і многія іншыя прамысловыя прадпрыемствы, мае ўласны летні дзіцячы лагер. І хаця матэрыяльныя ўмовы складваюцца далёка не найлепшым чынам, а выдаткі на ўтрыманне гэтых сціплых пабудоў вельмі сур'ёзныя, лагер працуе і працягвае прымаць хлопчыкаў і дзяўчынак у чэрвені—жніўні. Аднак і тут зноў умешваецца праславутая "квота". За "змену" (21 дзень) у лагеры можа адпачыць 300 дзяцей, але грашовую кампенсацыю за пуцёўку з боку фонду "Здароўе" — 2 мільёны 200 тысяч беларускіх рублёў (агульны кошт — 6 мільёнаў) атрымаюць толькі 48 чалавек. Бацькоўскі ўзнос — 10 працэнтаў ад сумы. Астатняе аплачвае прадпрыемства, калі ёсць з чаго.



Каля двухсот дзяцей адпачываюць цяпер у аздараўленчым міжкалгасным лагеры "Чайка", які, хоць і знаходзіцца ў Ганцавіцкім раёне, сабраў сюды і дзетак з суседняга Пінскага раёна. Да іх прыезду ўсё было прыведзена ў парадак, і сем карпусоў лагера сустрэлі сваіх юных пацыентаў утульнасцю і ветлівасцю.
НА ЗДЫМКУ: дзеці з важатай Наталляй МАЛЕШ.

Фота Рамана КАБЯКА, БелТА.

Канешне, як бы ні было цяжка, завод знаходзіць магчымасць дапамагчы сваім работнікам, для гэтага шэраг пуцёвак рэалізуе "на бок" за поўны кошт — прадпрыемствам і арганізацыям, якія не маюць уласных баз адпачынку. Застаецца толькі дадаць: у красавіку сярэдняя зарплата на заводзе склала 3 мільёны 441 тысячу рублёў.

Яшчэ адно прадпрыемства — бабруйскае аб'яднанне па апрацоўцы драўніны "Фандок". І тут эканамічнае становішча вельмі складанае, але, па словах кіраўніка прадпрыемства Анатоля Гручанкова, адміністрацыя прыкладае ўсе намаганні, каб забяспечыць работнікам адпачынак і аздараўленне — напрыклад, ва ўласным прафілакторыі на 200 месцаў. Дзеці завадчан ездзілі на адпачынак у Балгарыю практычна за кошт прадпрыемства, працуе ўласны мясцовы дзіцячы лагер на 900 месцаў за лета. Праўда, і тут прадпрыемства вымушана частку пуцёвак рэалізоўваць іншым арганізацыям, каб мець дадатковыя сродкі на ўтрыманне лагера, — прыкладна 125 пуцёвак у месяц. Кошт прыблізна такі ж, як і на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній. Бацькоўская плата таксама 10 працэнтаў. Дырэктар "Фандока" лічыць: нягледзячы на ўсе складанасці, кожны работнік прадпрыемства хаця б адзін раз за лета адправіць сваё дзіця на льготных умовах у заводскі загарадны лагер. Калі трэба, дакупляюцца пуцёўкі ў іншых месцах, спецыяльную дапамогу атрымліваюць мнагадзетныя сем'і.

На прамысловых прадпрыемствах хоць як, але дапамагаюць работнікам летам, а вось "бюджэтнікам" — тым, хто працуе ў арганізацыях, фінансуемых з бюджэтных сродкаў, звярнуцца практычна няма куды. Не кажучы ўжо пра адпачынак дарослых, дзяцей немагчыма ўладкаваць, каб падыхалі чыстым незагазаваным паветрам. Прафсаюзы ўжо не памочнікі, напісаць заяву ў адміністрацыю — там "квота"... Хіба скараціць школьныя канікулы, якія ў нас тры летнія месяцы? Канешне, такое становішча не задавальняе людзей. Многія памятаюць: чаго іншага сапраўды не хапала, але ўжо з таннымі летнімі пуцёўкамі ў дзіцячыя лагеры праблемы не існавала. А зараз... Беларусам давадзіцца ўсё часцей і часцей згадваць сумную прымаўку — выратаванне тых, хто тоне, іх уласная справа. Прынамсі, пакуль...

Галіна УЛІЦЁНАК.

# ВУЧАЦЦА СВАЕ, ВУЧАЦЦА І ЧУЖЫЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**— Ці рыхтуюць у Мінскім медінстытуце замежных студэнтаў?**

— Акрамя пералічаных, у нас ёсць медыцынскі факультэт замежных навучэнцаў, дзе на кантрактнай аснове займаецца звыш пяцісот студэнтаў з трыццаці краін свету. Работа на платнай аснове з іншаземцамі ці з айчыннымі студэнтамі, якія не прайшлі па конкурсу, але набралі станоўчыя балы, дапамагае інстытуту выжыць і ўтрымліваць прафесарска-выкладчыцкі састаў.

**— Які сёння конкурс на паступленне ў медінстытут?**

— Апошнія дзесяць гадоў конкурс у нас складае ў сярэднім 2,5 чалавека на месца. 20—25 гадоў назад ён быў значна вышэйшы. Аднак хачу заўважыць, што ў нас атрымліваецца своеасаблівы конкурс якасці. Як я ўжо сказаў, у гэтым годзе прыём складзе 499 чалавек, мяркуецца, што медалістаў сярод абітурыентаў будзе больш за 500. А медалісты ў нас пазбаўлены права здаваць толькі адзін прафіліруючы экзамен, як гэта робіцца ў некаторых вышэйшых навучальных установах. Мы не даём студэнтам такой ільготы, бо, калі чалавек атрымаў медаль, ён у стане яго пацвердзіць. Пры такіх умовах я лічу конкурс 2,5—3 чалавекі на месца аптымальным.

Другую прычыну такога невысокага конкурсу, я думаю, трэба шукаць ва ўмовах існавання нашых урачоў і адносінах да іх. Сёння многія маладыя людзі аддаюць перавагу больш лёгкаму жыццёваму шляху, чым невялікія зарплаты, гіпертанічная хвароба і бясконцы рабочы дзень. Акрамя таго, студэнтам займацца ў нас даводзіцца вельмі многа. Тым не менш, мне здаецца, што колькасць урачоў і колькасць студэнтаў не абавязкова павінна быць узаемазвязанай. Неабходна прымаць і навучаць студэнтаў больш, чым існуючая патрэба ва ўрачах, бо, па-першае, як паказвае вопыт, далёка не ўсе медыкі затым працуюць па прафесіі, па-другое, чым больш адукаваных людзей, тым лепш для грамадства.

**— Ці ёсць у гэтым годзе якія-небудзь асаблівасці пры паступленні ў медыцынскі інстытут?**

— Па-першае, усе экзамены ў нас прымаюцца толькі ў пісьмовай форме. Другое нававядзенне заключаецца ў тым, што экзамен па рускай мове будзе здавацца ў выглядзе пераказу. Раней на экзамене прапаноўвалася напісаць дыктант, і палалетась з 150 абітурыентаў 105 чалавек атрымалі двойкі. Пераказ крыху прасцейшы: калі ты не ведаеш, як пішацца слова "інтэлігент", то можаш замяніць яго, напрыклад, на "адукаваны чалавек".

**— У апошнія гады ў Беларусі назіраецца рэзкі рост некаторых захворванняў, напрыклад, на туберкулёз, сіфіліс, даюць аб сабе знаць і такія забытыя ўжо хваробы, як дыфтэрыя. Ці ўлічваецца пры падрыхтоўцы будучых урачоў змяненне эпідэміялагічнай абстаноўкі?**

— Медінстытут праводзіць базавую падрыхтоўку урачоў. Спецыялізацыю яны праходзяць ужо пасля атрымання дыплома на сёмым курсе ў клінічнай ардынатуры і аспірантуры. Мы ж, у сваю чаргу, ведаючы аб змяненнях у эпідэміялагічнай сітуацыі і змяненні некаторых акцэнтаў, улічваем гэта пры складанні вучэбных планаў і праграм. Што рабіць, калі раней знайсці хворага на сіфіліс, каб паказаць яго студэнтам, было праблемай, а сёння зрабіць гэта, на жаль, не складае цяжкасці.

**— Ці змяніліся, на ваш погляд, за апошнія гады ўмовы працы маладых урачоў-выпускнікоў?**

— Змянілася жыццё па-за сценамі бальніцы, і гэта робіць уплыў на існаванне лячэбнай установы. Напрыклад, раней не было пацыентаў, якія, лежачы на ложку, нагаворвалі б па сотавым тэлефоне за гадзіну больш, чым урач, які, яго лечыць, зарабляе за некалькі месяцаў. Сёння пацыент, які прыехаў у бальніцу на "Мерседэсе", патрабуе, каб яму аказалі дапамогу тэрмінова. Быў выпадак, калі такое права даказвалася пры дапамозе пісталета. У той час, калі я пачынаў працаваць пасля інстытута, такога яшчэ не было.

**— Хапае сёння ўрачоў у сельскай мясцовасці?**

— Найбольш неўкамплектаваная медыцынскімі кадрамі Магілёўская вобласць. У гэтым годзе туды накіравана 56 выпускнікоў лячэбнага факультэта. З іх палова напісала, што з размеркаваннем яны не згодныя. Паехаць туды ім давядзецца, але можна думаць, што яны там надоўга не затрымаюцца. Вялікі недахоп урачэбных кадраў адчуваецца таксама ў Мінскай вобласці. У астатніх рэгіёнах сітуацыя менш вострая. Даводзілася чуць, што ў Гродне на сёння навят лішак урачоў, у той жа час у Гродзенскай вобласці ўрач можа знайсці сабе работу. Шчыра кажучы, я лічу, што гэта не задача ВНУ размяркоўваць выпускнікоў, але калі гэта ўсё-такі ажыццяўляецца, то ўрача — як і прадстаўніка іншых прафесій — трэба працаўладкоўваць, прадастаўляючы яму пэўныя гарантыі. Магчыма, многія выпускнікі ехалі б са значна большым задавальненнем у сельскую мясцовасць, калі б ведалі, што іх там чакае хаця б нармальнае жыллё.

**— А хапае сёння ўрачоў у Мінску?**

— У палiклінічным звяне урачоў не хапае, многія паліклінікі пастаянна звяртаюцца да нас з просьбай прыслаць для работы па сумяшчальніцтву клінічнага ардынатара. Маладыя людзі не вельмі хочуць там працаваць, часта яны стараюцца ўсімі праўдамі і няпраўдамі ўладкавацца ў бальніцы ці інстытуты.

**— Калі ствараўся праект медыцынскага інстытута, у ім былі прадугледжаны цэлы студэнцкі гарадок, яшчэ адзін корпус, басейн. Аднак сёння з намечанага пабудаваны толькі адзін вучэбны корпус і інтэрнат. Ці плануецца працяг будаўніцтва?**

— Інстытут да гэтага часу не мае завершанага выгляду. Абітурыенты прыходзяць у храм навукі, а храм акружаны старым плотам, з 1992 года разбурацца фундамент недабудаванага корпуса. Праектна-каштарысная дакументацыя за гэты час састарэла, для таго каб яе перарабіць, патрэбны грошы. Калі знойдзем грошы на дакументацыю — дзе потым іх узяць на будаўніцтва? А гаварыць аб будаўніцтве нельга, пакуль няма дакументацыі... У нас практычна адсутнічае спартыўная база, асноўныя спартзалы засталіся на вуліцы Ленінградскай у старых карпусах. Згодна з планам развіцця універсітэта ў нас іх забіраюць. У сувязі з гэтым хацелася б напомніць, што клопат аб будучых урачах — гэта клопат аб здароўі нацыі.

Вераніка ЧАРКАСАВА.

# ПАЛІТЫЧНЫЯ ПОГЛЯДЫ МІКОЛЫ ГУСОЎСКАГА

**(ДА 475-годдзя ВЫХАДУ Ў СВЕТ ПАЭМЫ «ПЕСНЯ ПРА ЗУБРА»)**

Вялікі князь сурова караў ілжэсведкаў, суддзяў-хабарнікаў:

**Жорстка ўладар катаваў ілжывых, падкупленых сведкаў**
**З тым, каб ніхто надалей суддзям хлусіць не пасмеў.**
**Хмуры, азмрочаны, ён выслухоўваў клятваадступцаў,**
**Вельмі баяўся ілжэц рот для няпраўды раскрыць.**
**Рэшткі знявечаных цел, абгарнутых звярынаю шкурай,**
**Кідалі вучаным псам, каб разарвалі нашчэнт.**
**Вітаўт без жалю караў і суддзяў, да хабару ласых,**
**Скора, як некага з іх ён выкрываў хоць бы раз.**
**Кажуць, суддзю аднаго раздзёрлі на часткі, бо хцівец**
**Права за тым прызнаваў, хто яму хабары нёс.**
**Той легкадум пагарджаў суровым эдыктам для суддзяў,**
**Вось і расцялі яго дзеля навукі другім.**
**Знікла, прапала тады саслоўе людзей прагавітых,**
**Дык і за гэтакі плён Вітаўту слава навек.**

Гусоўскі ганарыцца тым, што з часоў Вітаўта статкі зуброў у Вялікі Княстве Літоўскім "ахоўвае строгая грамата князя", якая аберагае іх ад вынішчэння. Гэтае сцвярджэнне паэта не разыходзіцца з фактамі. Менавіта з часоў Ягайлы і Вітаўта, як сведчыць польскі храніст Ян Длугаш, у Вялікім Княстве Літоўскім пачалося фарміраванне дзяржаўнай палітыкі па ахове флоры і фауны. Указы Ягайлы і Вітаўта ператварылі, у прыватнасці, Белавежскую пушчу ў запаведнік. Гэтая палітыка дзяржавы па ахове прыродных багаццяў працягвалася і ў наступныя гады. Напрыклад, па Статуту ВКЛ 1588 года за забойства зубра браканьер павінен быў заплаціць на карысць дзяржавы штраф у памеры 12 грошай. (Сума па тых часах, відаць, значная).

Умацаванне дзяржаўнай улады служыла з'яўленню высокага міжнароднага аўтарытэта дзяржавы, перад якой схіляліся нават такія моцныя краіны-суседкі, як Крымскае ханства, Маскоўскае княства, Атаманская імперыя:

**Лук свой татарын зламаў і яго працягнуў пераможцу,**
**Долу схіліў галаву, страхам ахоплены ўвесь.**
**. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .**
**Быццам нявольнік які, маскавіт яго зваў уладыкам,**
**Хоць і магутным царом быў сярод многіх цароў.**
**Турак, мацак і тады прысылаў дарагія падаркі,**
**Сведчыў здалёку, што ён князю скарыцца гатоў.**
**Трое вось гэтых, што жах на цэлы сусвет наганялі,**
**Моўклі ураз перад ім, рот баючыся адкрыць.**

Нарэшце, у паэме Вітаўт паўстае як хрысціянскі правіцель, які не толькі сам вызнаваў хрысціянскія прынцыпы, але і клапаціўся аб чысціні хрысціянскай веры, яе ўмацаванні і расшырэнні:

**Княжанне Вітаўта лічаць усе летапісцы**
**Росквітам княства Літоўскага, нашага краю,**
**І называюць той век залатым. Разбяромся:**
**Мне так здаецца, што гэтай шаноўнаю назвай**
**Век той названы па простай прычыне: дзяржаўца**
**Перад багаццем і шчасцем зямным пастаянна**
**Ставіў багацце духоўнае — злата дзяржавы.**
**Ён быў набожны і першы з народамі княства**
**Сам ахрысціўся, прызнаўшы, што з верай паганскай**
**Повязі ўсе парывае, а ідалаў веры**
**Ён загадаў пазбіраць і панішчыць, а цэрквы**
**Богу адзінаму скрозь будаваў, і надзелы**
**Служкам духоўным адвальваў з угоддзяў не скупа.**

Аднак пасля смерці Вітаўта многае з яго вялікай спадчыны было страчана. Пераемнікі яго аказаліся не зусім падрыхтаванымі да працягу яго вялікай справы. Паэт нават не ўпамінае шэрагу імёнаў вялікіх князёў літоўскіх, якія кіравалі пасля Вітаўта. Зыходзячы з гэтага, можна ўявіць, што ў разуменні М. Гусоўскага яны менш за ўсё адпавядалі яго ўяўленню ідэальнага манарха.

Як і Ф. Скарына, М. Гусоўскі з сімпатыяй адгукаецца аб Сігізмундзе І Старым:

**. . . . . Адчуваю ізноў міма волі:**
**Хіліць пяро маё у бок, каб табе, Сігізмундзе,**
**Бацька Кароны і ўдзелаў Вялікага княства,**
**Славу прапець і ўхваліць твае поспехі ў справе**
**Дома вялікай, за межамі краю — не меншай.**

Нягледзячы на такія хвалебныя, прыемныя словы, сказаныя ў адрас Сігізмунда І Старога, паэт ясна бачыць сур'ёзныя сацыяльна-палітычныя немачы, што паразілі гэты некалі магутны дзяржаўны арганізм, аслабілі яго жыццёвыя сілы. Гэта дыферэнцыяцыя грамадства, палярызацыя інтарэсаў розных сацыяльных груп, імкненне адных, выкарыстоўваючы дзяржаўны апарат, непадзельна дамінаваць у грамадскім жыцці над іншымі, бескантрольна карыстацца плёнам грамадскай працы.

**Мы — шчэ натоўп, грамада непісьменная, цемра.**
**Князь і баяры — усе, каму льга заступіцца,**
**Глухі для нас і не горай, чым жорсткі татарын,**
**Душаць пятлёй галасы абурэння ў народзе.**
**Плаха і кат-выканаўца — вось доля любога,**
**Хто пастаяць за закон і за бога азваўся.**

Такім чынам, як вопытны, назіральны палітычны аналітык, Гусоўскі адным з першых убачыў пачатак крызісу дзяржаўнага ладу Вялікага Княства Літоўскага. Некалі моцнае і магутнае палітычнае цела, аслабеўшы, стала прынаднай, прыцягальнай здабычай для дзяржаў-суседзяў, якія набралі сілы. У выніку вайны з Маскоўскім княствам (1507—1526) быў страчаны Смаленск з прылеглымі да яго землямі, які Вітаўт далучыў да ВКЛ у 1404 годзе. У 1526 годзе на падставе мірнага дагавора ён адышоў да Маскоўскага княства. У 1512 годзе ў межы Вялікага Княства Літоўскага ўварваліся крымскія татары.

У той жа час, г. зн. у час вайны з Маскоўскім княствам, якраз перад ад'ездам беларуска-польскай дыпламатычнай місіі ў Рым, вераломны напад на землі ВКЛ учынілі крыжаносцы на чале з апошнім гросмайстрам ордэна Альбрэхтам Брандэнбургскім. І хаця гэты напад скончыўся для іх поўным разгромам, Гусоўскі адзначае, што пастаянная пагроза з боку крыжаносцаў вымушае дзяржаву трымаць у напружанні ваенныя сілы, аслабляе ваенную магутнасць ВКЛ і Польшчы:

**. . . . . .у воінстве нашым мацнела б**
**Вера у сілы краіны, і ў поспех змагання, каб толькі**
**У нас за плячыма хрышчоны народ вераломна**
**Нас не кусаў і не рваў, нібы пёс, за жывое.**

Але самыя вялікія беды для жыхароў ВКЛ і Польшчы — агрэсіўныя набегі з боку Крымскага ханства і Турцыі. Гусоўскі імкнецца прыцягнуць увагу папы да незлічоных пакут жыхароў ВКЛ ад жорсткіх набегаў татар і турак:

**Там, дзе арда саранчой прапаўзе, застануцца**
**Толькі асмолкі ды печышчы, попел ды косці,**
**Зграі варон ды чароды сабак адзічэлых.**
**Бог барані, калі нас перамогуць прышэльцы,**
**Лепш ужо смерць нам усім без пары, чым такая**
**Доля — жыццё пад'ярэмнае ў чорнай няволі.**

Процістаянне пастаяннай агрэсіі патрабуе вялікіх ахвяр, звязана з каласальнымі стратамі. Гусоўскі падкрэслівае, што, прымаючы ўдары з усходу на сябе, ВКЛ засланяе грудзямі хрысціянскія народы Еўропы.

**Мы на пярэднім краі хрысціянства заставай**
**Орды варожыя грудзі на грудзі прымаем.**

У той час як ВКЛ і Польшча, сцякаючы крывёю, адбіваюць напады Атаманскай імперыі і Крымскага ханства, еўрапейскія кіраўнікі выступаюць староннімі назіральнікамі, вядуць паміж сабой кровапралітныя міжусобныя войны, аслабляючы адзін аднаго. Паэт асуджае братазабойчыя войны еўрапейскіх дзяржаў паміж сабой, іх агрэсіўную знешнюю палітыку ў адносінах адзін да аднаго.

**Вострыць мячы пастаянна сусед на суседа —**
**Ты або я запаную, дваім жа нам цесна.**
**Братазабойствы, грызня, міжусобныя войны —**
**Іхні занятак фізічны і свет іх духоўны:**
**Воіны ж гінуць у тых і другіх у сутычках...**

Вынікі міжусобных войнаў ускладніла Рэфармацыя, што зарадзілася, яшчэ больш паглыбіла хваравіты раскол хрысціянскага свету.

**Свет хрысціянства з яго хрысціянскаю верай**
**Трэснуў даўно, і расколіна углыб пранікае.**

Гусоўскі гнеўна асуджае войны, лічачы іх праявай маральнай дэградацыі грамадства, паказчыкам яго ўнутранай хваробы.

**Войны! Злачынная справа — вайна выклікае**
**Гнеў мой, і слёзы, і боль.**

Хаця, зразумела, паэт прызнае неабходнасць справядлівых, абарончых войн. Менавіта таму ён заклікае хрысціянскія дзяржавы Еўропы аб'яднаць свае намаганні, каб процістаяць турэцкай агрэсіі. У канцы паэмы Гусоўскі звяртаецца да дзевы Марыі з малітвай, у якой заклікае кіраўнікоў Еўропы спыніць міжусобіцы і накіраваць свае сілы супраць агульнага ворага, выканаць свой хрысціянскі доўг:

**Нашым князям, што ў сваіх міжусобіцах розум**
**Нашай крывёй замуцілі, падай на пахмелле**
**Мысляў і ўчынкаў цвярозасць, вярні роўнавагу**
**Мудрых дзяржаўцаў, напомні пра іх абавязкі.**

Паэт выказвае надзею на аб'яднаўчую, каардынуючую палітыку Адрыяна VI (змяніў на папскім прастоле Льва X), які зможа стварыць кааліцыю еўрапейскіх дзяржаў, што будзе процістаяць агрэсіі Турцыі:

**Папскі прастол Адрыяна і свет хрысціянства**
**Заклікам боскім згуртуй, апалчы супраць турак.**

Такім чынам, можна сказаць, што твор Гусоўскага — гэта ўбраны ў паэтычную форму палітычны трактат, у якім выказана адна з самых актуальных палітычных ідэй таго часу — стварэнне лігі еўрапейскіх хрысціянскіх дзяржаў, накіраванай супраць Турцыі з мэтай абароны хрысціянскіх каштоўнасцей, славянскіх народаў.

Дарэчы звярнуць увагу на адну асаблівасць палітычнага праекта Гусоўскага, якая выгадна адрознівае яго ад праектаў, прапанаваных прадстаўнікамі палітычнай думкі эпохі Адраджэння, у прыватнасці, італьянскім гуманістам, сучаснікам Гусоўскага, Андрэа Навагера (1483—1529). Падтрымліваючы ідэю стварэння саюза еўрапейскіх дзяржаў для барацьбы з Атаманскай імперыяй, ён прапаноўваў, аднак, іншы напрамак прымянення ваенных сіл гэтага саюза. Як і ў гады крыжовых паходаў, А. Навагера лічыў неабходным адваяваць у няверных труну господнюю, а таксама страчаныя помнікі грэчаскай і рымскай антычнай культуры.

Перавага праекта Гусоўскага заключалася, такім чынам, у тым, што ваенны саюз еўрапейскіх хрысціянскіх дзяржаў супраць Турцыі ён разглядаў як сродак вырашэння самай складанай і актуальнай міжнароднай палітычнай праблемы таго часу — абароны славянскіх народаў ад турэцкай агрэсіі. На жаль, голас паэта не быў пачуты, і яго твор не аказаў жаданага ўплыву на палітычнае жыццё таго часу.

У пачатку XVI стагоддзя еўрапейскія гасудары не змаглі ў поўную меру ацаніць турэцкую пагрозу і не пажадалі ўвязвацца ў вайну, як ім здавалася, з небяспечным, але даволі далёкім ад еўрапейскай рэчаіснасці ўсходнім суседам. За гэта славянскім народам давялося заплаціць дарагой цаной.

Тым не менш, ідэя, сфармуляваная Гусоўскім (г. зн. праект стварэння кааліцыі хрысціянскіх еўрапейскіх дзяржаў, накіраваны супраць Турцыі), стала адной з цэнтральных у еўрапейскай палітычнай думцы XVI—XVII стагоддзяў, пра што сведчаць працы С. Ажэхоўскага, А. Пасевіна і інш., і дамінавала ў ёй аж да рашаючай бітвы пад Венай (12 верасня 1683 года), калі аб'яднаныя сілы еўрапейскіх дзяржаў пад камандаваннем Яна III Сабескага разграмілі ўзброеныя сілы Турцыі, пасля чаго яна ўжо не думала аб інтэрвенцыі ў Еўропу. Як бачым, у "Песні пра зубра" Гусоўскі выступае як выразнік перадавых грамадска-палітычных ідэй свайго часу, што адлюстроўваюць карэнныя жыццёвыя інтарэсы не толькі народаў ВКЛ, але і ўсіх славянскіх народаў.

Такім чынам, можна сказаць, што Гусоўскі належаў да ліку тых палітычных мысліцеляў XVI стагоддзя, якія геніяльна ўгадалі тэндэнцыю развіцця чалавечага грамадства да ўсё большага супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі ў вырашэнні асобных канкрэтных сацыяльна-палітычных праблем. У пачатку XVI стагоддзя ён ясна выказаў думку аб тым, што многія, ва ўсякім выпадку некаторыя першаступенныя, найвастрэйшыя сацыяльна-палітычныя праблемы, што закранаюць лёсы як асобных дзяржаў, так і цэлых рэгіёнаў, могуць быць паспяхова вырашаны толькі агульнымі, аб'яднанымі намаганнямі людзей. Гэта ў першую чаргу тычыцца пытанняў калектыўнай бяспекі, прадухілення братазабойчых войнаў, рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў на падставе ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва і абмену вынікамі працы, ахова навакольнага асяроддзя і інш. Гэтыя ідэі сёння знаходзяць усё больш прыхільнікаў, прабіваюць дарогу ў палітычным мысленні.

Паэма Гусоўскага "Песня пра зубра" — гэта бессмяротная спадчына вялікага патрыёта і гуманіста, які заклікае народы да міру, дружбы, супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі, што вядуць да працвітання і прагрэсу.

Гэтыя ідэі М. Гусоўскага актуальныя і сёння.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.**

---

Заканчэнне.
Пачатак у № 25.

# ЗАЯВА МІНІСТЭРСТВА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Як ужо афіцыйна паведамлялася, 21 красавіка гэтага года ўрад Рэспублікі Беларусь прыняў рашэнне аб капітальнай рэканструкцыі ўрадавага комплексу "Дразды", які пабудаваны, у асноўным, у 1945—1948 гадах і патрабуе істотнай замены сістэм камунікацый, водаправода, каналізацыі і іншых камунальных збудаванняў.

На момант прыняцця гэтага рашэння ў пасёлку пражывалі Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь і кіраўнікі шэрагу дыпламатычных місій, акрэдытаваных у Мінску, — 22 дыпламаты з сем'ямі.

Падпарадкоўваючыся рашэнню ўрада, тры вышэйшыя службовыя асобы рэспублікі пераехалі са сваіх рэзідэнцый на час рамонту. Аднак паслы, асабліва паслы краін Еўрапейскага саюза, адмовіліся падпарадкавацца гэтаму рашэнню, матывуючы гэта тым, што ім патрабуецца больш працяглы час для ад'езду, чым два тыдні, указаныя ў пастанове ўрада. Такі час ім быў прадастаўлены.

Для перасялення паслоў з комплексу "Дразды", дзе яны былі размешчаны на часовай аснове, быў спецыяльна пабудаваны дом палепшанай канструкцыі на вуліцы Чырвонаармейскай з кватэрамі 200—400 квадратных метраў, а таксама прапанаваны дачныя комплексы "Крылова", "Сцяпянка".

Аднак паслы краін Еўрапейскага саюза пасля заканчэння двух месяцаў з часу прыняцця пастановы ўрада звярнуліся з нотамі ў МЗС Рэспублікі Беларусь, заяўляючы аб сваім нежаданні выканаць рашэнне ўрада Рэспублікі Беларусь і аб адмове пакідаць рэзідэнцыі. Гэтым яны парушылі Венскую канвенцыю, якая абавязвае дыпламатычных прадстаўнікоў паважаць законы краіны знаходжання, падпарадкоўвацца рашэнням яе ўрада і паважаць норавы, культуру і звычаі народаў гэтах краін.

МЗС Рэспублікі Беларусь выказвае шкадаванне, што тэхнічная праблема рэканструкцыі прынесла нязручнасці дыпламатам, аднак лічыць, што рашэнне, прынятае ўрадам, павінна выконвацца.

Становішча карэнным чынам змянілася пасля аб'яўлення пасёлка "Дразды" рэзідэнцыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Сусветнай дыпламатычнай практыцы невядомая сітуацыя, калі на тэрыторыі рэзідэнцыі прэзідэнта краіны размешчаны кватэры замежных дыпламатаў.

МЗС Рэспублікі Беларусь лічыць неабгрунтаваным ператварэнне гэтай акцыі ў палітычны інцыдэнт і разглядае палітычны націск і ультыматумы, прад'яўленыя ў сувязі з гэтым Рэспубліцы Беларусь, як недапушчальныя і як сведчанне двайнога стандарту, які Еўрапейскі саюз прымяняе ў адносінах да Рэспублікі Беларусь.

МЗС Рэспублікі Беларусь заяўляе, што наша краіна застанецца вернай прынцыпам міжнароднага права і існуючым дамоўленасцям, адначасова абараняючы права суверэннага распараджэння сваёй тэрыторыяй, нерухомай маёмасцю і нацыянальнымі рэсурсамі, якія ёй належаць.

**22 чэрвеня 1998 года.**

## V ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ І ПЕСНІ «МАЛАДЗЕЧНА-98»






**На працягу трох дзён працягваўся V фестываль беларускай паэзіі і песні "Маладзечна-98". У рамках фестывалю ў Маладзечне праходзілі канцэрты зорак беларускай эстрады. Акрамя таго адбыўся конкурс маладых выканаўцаў, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі ўсіх абласцей Беларусі.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час канцэртаў фестывалю; шчаслівая ўладальніца "Гран-пры" Вікторыя АЛЕШКА і яе музычны кіраўнік Васіль РАІНЧЫК.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БелТА.**

## НАВІНЫ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

### НА ПОКЛІЧ РОДНАЙ СТАРОНКІ

Нядаўна ў старажытнай Лідзе, горадзе свайго юнацтва, сабраліся на чарговы, пяты па ліку з'езд лідчан суайчыннікі з Польшчы і Расіі, Англіі, Германіі, ЗША. У выніку мінулай вайны і па іншых прычынах яны апынуліся за мяжою. Ды родная старонка кліча гэтых людзей да сябе, і колішнія лідчане ахвотна з ёю сустракаюцца. Гаспадары наладзілі для гасцей паездку па міцкевічаўскіх мясцінах у Завоссе, Туганавічы, Цырын, Шчорсы і, вядома, на возера Свіцязь і ў Навагрудак. Шмат хвалюючых сустрэч адбылося ў Лідзе і яе ваколіцах.

Наступны з'езд лідчан павінен адбыцца праз два гады.

### УСПОМНІЛІ ПРАЗ ПАЎВЕКА

"Прабачце нам, што ўлада так позна ўспомніла пра вас". Прыкладна такімі словамі пачаў сваё выступленне перад салдацкімі ўдовамі старшыня Карэліцкага райвыканкома Іван Шматко. Кіраўнікі раёна, бадай, першымі ў краіне правялі спатканне з жанчынамі гаротнай долі. Не толькі запрасілі нешчаслівых кабет у Дом культуры за гасцінныя сталы, а паклапаціліся аб прыездзе і ад'ездзе салдатак. Прыбыло на сустрэчу каля паляліны з запрошаных. А як яны былі расчулены ўвагай, шчырай гутаркай, падарункамі! Сярод іх самы дарагі — статуэтка — абраз Ефрасінні Полацкай. Каб святая заступніца вечна берагла гэтых людзей і іх нашчадкаў.

### ДА СВАІХ КАРАНЁЎ

Першы навучальны год скончыўся ў нядзельнай літоўскай школе, што адкрыта ў мястэчку Радунь Воранаўскага раёна. Тут мову і гісторыю суседняй Літвы вывучалі 30 дзяцей і 24 дарослыя. Адметна, што заняткі наведвалі не толькі мясцовыя літоўцы, а і беларусы ды палякі. Веданне мовы кожнаму спатрэбіцца: побач літоўскі гарадок Эйшышкі і Вільня недалёка.

Заняткі ў нядзельнай школе вялі настаўнікі з Пелясы, дзе колькі ўжо гадоў працуе недзяржаўная літоўская школа для дзяцей тутэйшых літоўцаў. Дарэчы, у верасні тут адкрыецца 11 клас.

### «ЛІДСКІЯ ТЭАТРАЛЬНЫЯ СУСТРЭЧЫ»

Так называўся абласны фестываль народных і ўзорных тэатраў, які на працягу двух дзён праходзіў у старажытным горадзе. На сцэне з поспехам выступілі самадзейныя тэатральныя калектывы з Ліды і Ваўкавыска, Ашмян і Мастоў, Берасгавіцы, Свіслачы і Астрыны. Адметна, што найбольшая ўдача выпала на долю народнага тэатра з гарадскога пасёлка Астрына, былога райцэнтра (зараз у Шчучынскім раёне). Артысты, што прадстаўлялі зямлю, якая дала Беларусі таленавітую паэтэсу Цётку, пакарылі гледачоў высокім майстэрствам. Яны паказалі спектакль па п'есе У. Рудава "Нешчаслівы селянін, яго жонка Маланка, жыд Давід і Чорт, які страціў сэнс існавання".

Такую ж высокую ацэнку атрымаў узорны тэатр "Памфлет" Свіслацкага раённага Дома культуры. Абодва калектывы будуць прадстаўляць Гродзеншчыну у ліпені на сталічнай сцэне.

### НЕ СТАЛА ДУБА А. МІЦКЕВІЧА

Гэтая вестка засмуціла паклоннікаў вялікага польскага паэта і многіх аматараў прыроды. Падчас нядаўняй навальніцы ўдарам маланкі знішчаны ў Шчорсах (Навагрудскі раён) дуб Адама Міцкевіча. Пад шатамі дрэва, якому было каля трох стагоддзяў, наш славуты зямляк складаў свае творы, у прыватнасці, паэму "Гражына". Дуб так струхнеў, што прыродная стыхія не пакінула нават пня. Рэшткі дрэва ў якасці сувеніраў забралі сабе польскія турысты, якія часта наведваюцца на Навагрудчыну.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

## НАМ ПІШУЦЬ

# СВЕТЛЫ ЮБІЛЕЙ

Многія ведаюць гісторыю першай адраджэнскай беларускай арганізацыі ў Вільнюсе — "Сябрыны". У нядзелю 31 мая гэтага года арганізацыя спраўляла свае дзесятыя ўгодкі. У Палацы прафсаюзаў, дзе пачынала сваю дзейнасць арганізацыя, зноў сустрэліся яе ветэраны-пачынальнікі з маладзейшымі сябрамі і шматлікімі гасцямі. З'явіліся сотні людзей, амаль поўнасцю заняўшы самую вялікую залу будынка.

Над сцэнай красаваўся плакат: "Сябрына" — 1988—1998" і наш светлы нацыянальны сцяг з Пагоняй. Урачыстасць распачалася песняй-гімнам "Магутны Божа", якую цудоўна выканала мужчынская група спевакоў з артыстам оперы — Леанідам Мурашкам на чале. Пасля гэтага з кароткімі прамовамі і віншаваннямі выступілі Л. Мурашка, былы сакратар і старшыня "Сябрыны" Валянцін Стэх і цяперашні — Р. Вайніцкі, старшыня згуртавання палітвязняў А. Аніпчык, Міраслава Русак і інш.

У выступленнях была падкрэслена згода, супрацоўніцтва аўтахтонаў краю беларусаў з літоўскімі ўладамі ад самага пачатку дзейнасці "Саюдзіса".

Насустрач нашым просьбам і прапановам амаль заўсёды (па меры рэальных магчымасцяў) ішлі лідэр "Саюдзіса" В. Ландсбергіс, спадар Азолас — рэдактар газеты "Атгімімас" і многія іншыя ўплывовыя дзеячы Літвы.

Ад імя Дэпартамента нацыянальных меншасцяў і Украінскай грамады павітала прысутных Людміла Жыльцова, а таксама наш сталы апякун Альфонсас Аўгуліс. З заслужанай цеплынёю і ўдзячнасцю былі ўспомнены першы старшыня "Сябрыны" Мікалай Матач, актыўны працаўнік арганізацыі на пачатку яе існавання, Валдас Банайціс, які разам са Стэхам быў галоўным ініцыятарам рэгістрацыі беларускага адраджэнскага згуртавання.

Былі ўспомнены актывісты-пачынальнікі: А. Анішчык, Я. Багдановіч, Л. Кардзіс, С. Карабач, Зімніцкі, Кляйноў, Жабінскі, Курчэйка, Я. Лобан, Алдона Папова, Паўлюкевіч, Паўлоўскі, Петрыкевіч, Г. Сівалава, М. Русак, Т. Стэрліна, П. Саўчанка, С. Тулейка, Расевіч, А. Аблажэй, Рулінскі, Маслоўская, Шастак, Шышэя...

З малодшага пакалення — Сяргей Вітушка, Т. Каротчанкава, Харэўскі, Дубавец, мастакі Кузьменка, Поклад і інш.; памёршыя браты Луцкевічы і Павел Каруза, Кратовіч і Каўшанка, Янка Тулейка, якіх ушанавалі хвілінай маўчання.

На працягу гадоў у адроджанай Летуве зроблена "Сябрынай" нямала. Створана некалькі іншых беларускіх арганізацый: ТБШ, ТБК, ВЗПВ; філіялы ў Вісагінасе, Друскеніках, Салечніках, Шаўляі, Каўнасе, Пабрадзе, Грыгішках, Свянцянах...

Наладжаны дзесяткі экскурсій на Беларусь (Мінск, Вязынка, Ракуцёўшчына) і раёны Віленшчыны, сустрэчы з навукоўцамі і артыстамі Мінска, Мазыра, Маладзечна, Гродна і інш.

Створаны факультатывы навучання беларускай мовы і пачатковыя школьныя класы (Салечнікі, Вісагінас), дзе адзначыліся актыўнасцю такія патрыёты, як паэт П. Малафей, таленавітая прафесіянал-музыкант (скрыпка) Святлана Суворава (Антанян), др. Ломаць у Друскеніках і інш.

Пазней створанае Згуртаванне палітвязняў выдала тры першыя пасля вайны беларускія кніжкі. У друку з'явілася беларуская старонка "Пагоня" (якаяпазней мяняла сваю назву), а ўжо паўгода выходзіць у Салечніках самастойная беларуская газета.

Дасягненні ў галіне мастацкай самадзейнасці таксама значныя, асабліва цешыць колькасны рост і мастацкі ўзровень вісагінаўскага ансамбля, якім кіруе Святлана Антанян. Хор гэты выразна вылучаецца на першае месца сярод дзесяткаў іншых.

Традыцыя супрацоўніцтва і дапамогі з боку пасольства Рэспублікі Беларусь, распачатая Уладзімірам Шчасным, працягваецца і цяпер, хоць не заўсёды ў патрэбных памерах.

Аднак перад адраджэнскім рухам, як падкрэслівалі, выступаючы, сябры, ёсць і нявырашаныя важныя задачы. Віленшчына ўсё яшчэ не мае роднага касцёла і царквы. Духавенства працягвае дэнацыяналізацыю.

Дэ-факто няма ніводнага беларускага садзіка, школа існуе без фундамента. У першыя класы трапляюць дзеткі, падрыхтаваныя для расійскіх і польскіх школ, у якіх змушаны вучыцца тысячы беларускіх школьнікаў.

Даўно пара адчыніць закрыты і разрабаваны Музей Івана Луцкевіча. Чакае ўстаноўкі помніка выдатны дзеяч і патрыёт — былы дырэктар Навагрудскай беларускай гімназіі Ян Цеханоўскі, пахаваны на Ліпаўцы.

Гэтыя праблемы яшчэ доўга абмяркоўваліся пасля сустрэчы, якая закончылася выступленнямі ансамбля "Сябрына" і літоўскай харавой групы з блізкага замежжа (в. Гервяты), якая паспяхова выканала беларускія і літоўскія народныя песні.

# ЗАПОЎНІЛІ СОЙМ ПАЛІТВЯЗНІ

Канец мая месяца быў запоўнены рознымі мерапрыемствамі як дзяржаўнага, так і беларускага маштабу. На той самы дзень выпалі дзве падзеі: з'езд палітычных вязняў і ссыльных Літвы і арганізаваная ў сярэдняй беларускай школе акадэмія, прысвечаная юбілею Адама Міцкевіча.

На з'езд былі запрошаны сябры віленскага Згуртавання палітвязняў, і прысутнічаў у сойме старшыня гэтага згуртавання Аляксей Анішчык, які ўжо не раз сустракаўся са старшынёй Сойма — прафесарам Вітаўтасам Ландсбергісам.

Трэба адзначыць, што між беларусамі і кіраўніцтвам "Саюдзіса" ад пачатку адраджэння Літоўскай Рэспублікі ўстанавіліся шчырыя і цёплыя адносіны.

Лідэр "Саюдзіса" і нямала дзеячаў дзяржавы спагадна адносіліся да беларускага адраджэння, і ў грамадскіх імпрэзах беларуская сцягі заўсёды лунаді побач з дзяржаўнымі.

У бітком набітай зале пасяджэнняў Сойма прысутнічаў Прэзідэнт рэспублікі В. Адамкус, вёў пасяджэнне прафесар В. Лансбергіс. Для абмеркавання і вырашэння нагрувашчаных праблем спатрэбілася два дні.

Распачаўся з'езд выступленнем Прэзідэнта В. Адамкуса. Ён падкрэсліў, што свабода народа здабывалася немалымі ахвярамі. На самым пачатку акупацыі нашых зямель адбыліся масавыя вывазы насельніцтва ў Сібір ды іншыя месцы зняволення. Сотні тысяч людзей пацярпелі ад масавых рэпрэсій, у тым ліку дзесяткі тысяч дзяцей, жанчын і старых.

Сёння пакутнікі, якія выжылі, выкрываюць нялюдскі здзек, генацыд літоўскага народа. І нацыя абавязана гэта знаць, каб не дапусціць паўтарэння падобнага гвалту над чалавекам у будучыні. Саюз былых палітвязняў налічвае сёння 132 тысячы членаў.

У выступленнях рэабілітаваных палітвязняў гучалі боль і гнеў супраць нялюдскага здзеку камуністычных уладаў, якія нагла ашуквалі сусветную грамадскасць і знішчалі мільёны ні ў чым невінаватых людзей. Выказвалася цвёрдая воля любой цаною бараніць незалежнасць нацыі і дэмакратычнай дзяржаўнасці.

Выступленні Прэзідэнта Адамкуса, спікера Сойма Ландсбергіса і былых камбатантаў, палітзняволеных суправаджаліся бурнымі апладысментамі.

Двухдзённая праграма з'езда ўключала сустрэчу з прадстаўнікамі ўрада, азнаямленне з некалькімі выставамі эпохі генацыду, набажэнства ў Катэдры, канцэрты і экскурсіі, іншыя мерапрыемствы.

**А. ЗІНКЕВІЧ.**

г. Вільня.

# АСТРАВЫ КАРАЛЕВЫ МОД

**(Апавяданне)**

Насампраўдзе яе звалі Марынай. Але калі хто клікаў ці называў у размове яе імя, яна загадкава ўсміхалася, ды нікому не выдавала свой сакрэт: што яна — хто б вы думалі? — каралева з Астравоў Мод.

Як я шкадаваў, што дагэтуль не пабываў на іх! Як я шкадаваў потым, калі даведаўся, што гэткіх астравоў проста не існуе. На мапах пазначана толькі Зямля Каралевы Мод — дзесь на самым ускрайку Антарктыды, дзе і зямлі, як такой, напэўна, няма — суцэльны лёд! З якой нагоды панесла каралеву ў тое мярзлоцце?! Хіба Англія так збяднела на графствы, што каралеве не хапіла месца ў якой-небудзь ёркшырскай пустэчы ці — на благі канец — у Таўэры?! А мо яна і не з Англіі, але мне пра гэта ніхто не казаў, дык хай застаецца так, як мне падумалася.

Са школьных гадоў памяць захавала толькі два словы, якія выклікалі маю цікавасць: "каралева Мод". А першае з трох слоў — "зямля" — як пясок, праслізнула праз дзіравае сіта ведаў, саступіўшы месца іншаму. Так во неспадзявана ўзніклі на глобусе і адначасова ў маёй свядомасці Астравы Каралевы Мод. Адчуваеце розніцу? Зямля — гэта нешта неакрэсленае, занадта агульнае, а астравы — гэта і мора, і пясок, і пальмы... карацей — увесь антураж экзотыкі і, напэўна, гэткіх жа самых экзатычных уцех... А яшчэ ўлічыце — і гэта самае галоўнае! — што зямля без каралевы так-сяк яшчэ можа праіснаваць, а вось астравы без каралевы — ужо аніяк! Хто ж тады будзе апякаць тубыльцаў, ушчуваць іх, калі трэба, карацей, рабіць тое, што і павінна рабіць каралева ў сваіх уладаннях, калі яна не абы-хто, а каралева?! І калі прылаўчыцца ды патрафіць ёй, то можна і самому зрабіцца каралём, бо астравы, названыя толькі па імені каралевы, напэўна, так і не мелі ніколі свайго караля...

Мусіць, было за што ўляпіць мне некалі "двойку" па геаграфіі, бо ўсё пераблыталася на маім глобусе: кантыненты плавалі, як хацелі, землі ператвараліся ў астравы і наадварот, а акіяны плёхаліся зусім не там, дзе павінны былі плёхацца.

Адзіным выключэннем была мая радзіма — мой слаўны горад Менск. Ён нікуды не сплываў, ні ў што не ператвараўся — стаяў на адным месцы, — бо гэта быў і полюс, і экватар усяго адначасова, нават больш: тут скрыжоўваліся ўсе паралелі і мерыдыяны маіх інтарэсаў, карацей кажучы, Менск быў той самы пуп Зямлі, ад якога ўсё йдзе і да якога вяртаецца.

Але я не вярнуўся: я шукаў астравы, не пазначаныя на мапах. Паблізу ад пупа, ад якога ўсё пайшло, іх не было. Праўдзівей, не было каралевы. А тыя, што трапляліся ўзбоч маёй пакручастай вандроўніцкай дарогі, былі, ведама, не з астравоў, хаця на нейкі час і супынялі мяне. Аднак я хутка здагадваўся, што яны — не каралевы. Ім бракавала таго адзінага, па чым пазнаеш вяльможную асобу — ейнага ўсведамлення той простай акалічнасці, што яна — каралева. І праз тое — уласцівага толькі ёй каралеўскага шарму.

З апошняй каралевай — з Марынаю — усё атрымалася па іншаму сцэнарыю, нечаканаму для мяне: цяпер ужо я сам хацеў супыніцца, але... Калі мы ўбачыліся самы першы раз, яна гыркнула да мяне — ну, ані не па-каралеўску! — і я адразу зразумеў, што яна — з астравоў: тыя, хто не з астравоў, гыркаюць не так і па іншых прычынах.

А мо зусім не таму гыркнула, а праз тое, што ў жылах яе цякла не толькі польская кроў (хто ж не ведае, што такое полькі?!), але і крышачку татарскай (злітуйся, Божа, над тымі, каму трапіцца на дарозе поўнае хараства стварэнне з раскосымі таямнічымі вачыма і да нерашучасці сарамлівай усмешкай — во-во! менавіта гэта сарамлівасць і заблытвае нас: адзін-два гэткія позіркі — і ты спёкся! ты — у палоне!).

А мне, як бачыце, пашэнціла ўдвая! А калі шчэ ўлічыць, што ўзрост наш быў амаль аднолькавы — трошкі болей за... і меней, чым... — дык і пытацца не трэба, чаго яна гыркнула: у такім узросце боязна зрабіць яшчэ адну — можа, самую непапраўную! — памылку.

Хіба ж яна не зразумела, чаго я так на яе зірнуў?! Канечне, зразумела. На каралеў, калі яны без світы, глядзяць спачатку, як на жанчын. А каралевы, асабліва калі яны без світы, проста паміраюць, калі ніхто не падкрэсліць, што яны — найперш каралевы, а потым ужо... "Потым" цікавіць іх меней, яны і самі ведаюць, што будзе потым.

Гэта каралева таксама ведала. Але я спачатку не надта кеміў, што ж у ёй такога каралеўскага. Трохі раскосыя вочы і расточак з макаўку — гэткая міні-каралева. Без кароны. З астравоў тугі і адзіноты. Маркотлівых, бязрадасных астравоў. Бо на іх ніколі не было караля. І пакуль я дабіраўся да іх, яна, жывучы адна, не траціла часу дарма і займела дзесь на старане наследнага прынца — чарнявенькага, з кудзеркамі, які, калі падрасце, будзе такім файным, такім прыгожанькім каралём на тых астравах. То калі каралём будзе ён, кім тады буду я?!

І праз гэта я адразу не ўпадабаў каралевіча. Ды яшчэ праз тое, што ўжо ў гэтым узросце ў яго прабіваліся каралеўскія замашкі — жаданне, каб усе і ўсё круцілася вакол яго, ды пакуль неўсвядомленая, але прыкметна, што каралеўская пагарда да тых, на каго маці-каралева пазірае не надта прыхільна. А мо, убачыўшы мяне, ён адчуў, што яму пагражае тое самае, што і мне: у адны похвы ўлазіць толькі адно лязо. І ён, сваім маладзенькім сэрцайкам, пэўна, адчуў небяспеку ці проста здагадаўся па маім твары, хто я такі — менавіта для яго! — але ж ён быў яшчэ маленькім каралём — па-дзіцячы нясмелым — проста хлопчыкам — і сумеўся пад маім позіркам. Але знайшоў-такі сілы ганарліва крутнуцца на адной назе і пабег жаліцца матулі.

Во тады яна на мяне і гыркнула — па-тубыльску, — і я адразу ўспомніў, адкуль яна. І здагадаўся, што каралева, надта доўга жывучы на астравах, пераняла ад тубыльцаў не толькі іхнія звычкі, але і мову.

Што мне было рабіць, беднаму электрыку, які карыстаўся дагэтуль толькі адной — сваёй! — мовай?!

Навучаны горкім вопытам, я адразу зразумеў, што каралеву — лепей не чапаць: калі людзі з самага пачатку ўжываюць розныя мовы, знайсці адну, каб дамагчыся разумення, будзе цяжкавата, а то і зусім немагчыма: мова — гэта тое, што робіць нас людзьмі, і калі мы не валодаем ёю — ці людзі мы?!

Людзі ці не людзі, а каралі — то напэўна! Кожны, каго ні вазьмі, жадае быць каралём. Але каб ім быць — трэба мець каралеўства. Я меў яго — аднапакаёвае каралеўства, — але праз тое, што яно такое маленькае, быў не каралём, а простым электрыкам. А Марына, з самага пачатку жывучы ў шматпакаёвым, але чужым каралеўстве — у інтэрнаце, — ды маючы акром гэтага наследнага прынца, мела поўнае права называцца каралевай... Той самай, каторая з Астравоў Мод...

Што такое "мод"? Ангельскае імя ці родны склон множнага ліку ад слова "мода"? Хто вырас далёка ад астравоў — у тым горадзе, напрыклад, які нікуды не рухаўся, нікуды не плыў і ні ў што не ператвараўся, — гэткаму чалавеку спасцігнуць тое "мод" не так проста: нагрувашчванне паралеляў і мерыдыянаў на мікраскапічным кавалачку шэрага рэчыва, ведама, абцяжарвае розум, а цела і душу пазбаўляе лёгкасці, уласцівай каралям, напэўна, спрадвек — ад самага нараджэння.

А там, дзе я нарадзіўся, і асабліва тады, калі я нарадзіўся, моднічаць было не ў пашане. Гэта цяпер мой родны горад трохі з'ехаў з глузду, і мода — не апошняе, да чаго ён пнецца.

І таму мне цяжка было прыняць звычку каралевы прыходзіць на працу, як на свята, штодзень маючы на сабе штосьці новае з вопраткі. Хіба гэта адзіны занятак для васпанай асобы?! А штурхацца ў транспарце кожнае ранне? А асалода ад працы, калі ўжо ломіць шыю ці спіну? А кухарскія клопаты ды лаянка з-за чаргі на інтэрнацкай кухні, каб хутчэй накарміць і сябе, і наследнага прынца?

І хаця звычка модніўчаць штодзень выклікала напачатку іранічны посміх з майго боку, я са здзіўленнем злавіў сябе на тым, што мне прыемна чакаць і бачыць, што новае апране Марына. І радаваўся, калі так было. Пагадзіцеся: сапраўды каралеўская звычка! І калі я прыняў яе — ужо як належнае, — то зразумеў нарэшце, што такое Каралева Астравоў Мод. Гэта, аказваецца, тое, чаго нам заўжды не хапае, гэта тое, чаго мы былі пазбаўлены, гэта тое, куды нас не пусцяць яшчэ Бог ведае колькі!

Ці цяжка працаваць электрыкам? Зусім не! Раскручвай свае правады, круці шурупы ды гайкі, тыцкай пробнікам у разеткі — вось і ўсё! А калі дзеўбане па пальцах, як не туды палез, дык хіба гэта праца?! Ад яе не ўпацееш! Во дзяўчаткі нашы — разам з каралевай — тыя пацеюць! Ім і фарбу самім прывалачы, і нанюхацца яе да ачмурэння, і паскакаць на "козліку" з ранку да вечара то ўверх, то ўніз — каб і да столі дацягнуцца, і яшчэ на карачках папоўзаць, плінтусы адводзячы! Во гэта праца! Якія там у галаве моды?! Хутчэй бы дахаты дапаўзці!

І калі я бачыў Марыну не ў заляпанай спяцоўцы, а ў чорным плашчыку з футравым каўняром ды белай хусцінкай на светлых, незавітых, пшанічных валасах, то імгненна блытаў, дзе нуль, а дзе фаза, і пару разоў мяне добра дзеўбанула. Але я прывык: жыццё дзяўбала мяне не гэтак — што мне тыя вольты ці амперы! Марына забівала самазванага кандыдата ў каралі без усялякага напружання — на адлегласці. І хаця з нашага знаёмства прайшоў ледзь не месяц, адлегласць тая не памяншалася ні на адзін ангстрэм.

Аднаго разу я вярнуўся з абедзеннага перапынку трохі раней, чым заўсёды, і застаў дзіўную карціну: каралева, адваліўшыся на спінку крэсла, напаўляжала ў ім — адпачывала, — а на другім, прытуліўшыся да яе і паклаўшы галаву на плячо каралевы, гойдаўся Чэсік, наш слаўны плітачнік, прынцыпова дагэтуль не жанаты. Чэсік вуркатаў ёй нешта на вуха і казытаў чорным вусам смуглявую шчочку каралевы, а каралева лагодна жмурылася і прытворна адпіхвала Чэся. Той і вусам не павёў, калі я адчыніў дзверы, і нат не спыніў гуллівага, але асцярожнага — каб не зваліцца — пагойдвання крэсла, а каралева, не варухнуўшыся, здаля шмальнула па мне раскосай шабляй чарнявых вачэй і зноў прыжмурыла іх: я для яе не існаваў.

І тады я зразумеў, што мне ніколі не быць каралём. І што ёй — маёй каралеве — зусім не цікава, што я расказваю ёй пра Антарктыду, пра горад, які нікуды не рухаецца... Каралеве болей даспадобы во гэткія — хіба ўжо... тубыльскія — ласкі... Дык што: і мне ператварыцца ў тубыльца?! Але дзе ж я набуду ўсё тубыльскае? І як навучуся гаварыць па-тубыльску і па-тубыльску выказваць свае пачуцці?! А калі раптам у мяне бяда? Як бядуюць тубыльцы? Узбіраюцца на скалу — калі яна ёсць — і кідаюцца ў мора?!

Але ж я не патану: я хачу жыць! І выплыву! У мяне хопіць на гэта сілы. А вось на тое, каб сказаць усё каралеве...

Вунь яна ўжо збіраецца дахаты... І з тубылкі — у спрэс перапэцканай фарбамі ды шпаклёўкай робе — пацыху ператвараецца ў каралеву: круціцца перад люстэркам. А ў самы апошні момант шыкоўна ўскідвае на сябе мантыю — чорны блішчасты плашчык з футравым каўняром...

Зараз яна па-каралеўску ляпне дзвярыма і, зусім забыўшыся на нас, хуценька пабяжыць у дзіцячы садок — да сваёй адзінай уцехі — да таго, хто зробіцца — калі вырасце — каралём астравоў Мод...

Я таксама пераапрануся і пайду: хто забароніць былому двоечніку рабіць тое, што ён хоча...

**Анатоль КІРВЕЛЬ**

---

СІНЯЯ ПТУШКА МАСТАКА М. КІРЭЕВА

# ВЫСТАВА НА МІКОЛУ ЛЕТНЯГА

Кожны, каго хоць трохі цікавіць культурнае жыццё нашай краіны, не можа не заўважыць, як, нягледзячы на тую эканамічную і фінансавую бездань, з якой пакуль што ніхто не бачыць выйсця, плённа шчыруюць на сваёй дзялянцы дзеячы літаратуры і мастацтва. Сваімі творамі яны нібы выказваюць пратэст жабрацкаму існаванню большасці людзей. Прэм'еры, канцэрты, вернісажы, прэзентацыі... У гэтым калейдаскопе культурнага жыцця часам можна і заблудзіцца, асабліва, калі надаваць пераважнае значэнне ў сваіх арыенцірах кідкай вулічнай рэкламе. Безумоўна, не ўсё, што добра рэкламуецца сродкамі масавай інфармацыі, уяўляе сабой каштоўнасць, з'яву нацыянальную. Ды і дзе ім, гэтым сродкам, паспець за такім хуткаплынным жыццём! Нехта заўважыў, што ў Мінску кожны тыдзень адкрываецца, як правіла, дзве мастацкія выставы.

Вось хоць бы і гэтая, якую ладзіла сталічная галерэя "Мастацтва". На ёй — творы заслужанага дзеяча мастацтва Міколы Кірэева. Як адзначыў на вернісажы сакратар Беларускага саюза мастакоў Гера Лойка, для нашага выяўленчага мастацтва Мікола Кірэеў — асоба неардынарная. У сваіх працах майстра імкнецца максімальна выказаць сваё лірычнае крэда. У яго партрэтах, пейзажах, сюжэтных кампазіцыях шмат паэзіі і музыкі. А перадусім, ён — каларыст. Не выпадкова дырэктар Музея сучаснага беларускага мастацтва Васіль Шаранговіч, які ў свой час фарміраваў кадры Беларускай акадэміі мастацтваў, запрасіў Міколу Кірэева на кафедру жывапісу. На адкрыцці выставы выступіў калега Міколы, мастак Аляксей Марачкін... Іхнія шляхі-дарогі не раз перасякаліся: і тады, калі яны разам вучыліся ў Віцебску на "худграфе", і цяпер, калі разам працуюць, дзякуючы таму ж Васілю Пятровічу. А да ўсяго яны — землякі: адзін з Чавускага, а другі з Чэрыкаўскага раёнаў. Адным словам, як кажуць у тых мясцінах, — "мугулёўцы". Калі Мікола Кірэеў прыехаў на сталае жыццё ў Мінск, ён заявіў пра сябе, найперш, як сапраўдны партрэтыст. Менавіта ён у тыя 70-я гады па-майстэрску пісаў беларускую мадонну. У Міколы Кірэева шмат партрэтаў як жаночых, так і мужчынскіх. Ён пісаў народнага мастака Леаніда Шчамялёва, які даў высокую ацэнку творчасці свайго маладзейшага калегі, а таксама іншых дзеячаў гісторыі і культуры. Але, на думку Надзеі Зелянко, мастацтвазнаўцы, якая вяла рэй на ўрачыстасці, — візітнай карткай мастака можна лічыць партрэт Ядвігі, які шырока друкаваўся ў розных мастацкіх выданнях. Ядвіга — лёс мастака. Не выпадкова, відаць, нарадзілася яна на Міколу Зімняга, як і не выпадкова адкрыццё выставы прыпала на свята Міколы Летняга.

Слова пра мастака сказаў загадчык кафедры жывапісу БелАМ Віталь Герасімаў. Не змог прысутнічаць на імпрэзе паэт Уладзімір Пецюкевіч. Яго верш "Сіняя птушка", прысвечаны Кірэеву, прачытала Ядвіга. Дарэчы, жывапісны твор з аднайменнай назвай стварыў у свой час і мастак.

**Мелодыя колеру, музыка ліній**
**Чаруе, хвалюе нябеснай красой,**
**Узносіць угору за птушкаю сіняй,**
**А сіняя птушка звініць вышынёй.**
**Імкнецца да сонца, імкнецца да зораў,**
**Здалёку махае прывабна крылом.**
**Мелодыя колеру, музыка ліній**
**Узносіць угору за птушкаю сіняй...**

Хай сіняя птушка Міколы Кірэева не ведае стомы і вольна лунае ў бязмежным акіяне мастацтва.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**



**З цікавасцю асвойваюць мастацтва роспісу па дрэву дзеці ў Доме дзіцячай творчасці гарадскога пасёлка Плешчаніцы Лагойскага раёна. Дапамагае ім у гэтым выпускніца Кобрынскага вучылішча народных промыслаў Іна Міронычык.**

**НА ЗДЫМКУ: Іна МІРОНЧЫК са сваімі выхаванцамі-першакласнікамі Віцем ДАЛІДЧЫКАМ і Ігарам ЦІТОВЫМ.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**



**Пушкінскае свята паэзіі прайшло ў пачатку чэрвеня ў Віцебску. Яго ўдзельнікі наведалі літаратурны музей, усклалі кветкі да помніка А. Пушкіну, чыталі свае вершы ў пушкінскім кутку абласнога цэнтра і ў музычнай гасцінай. Потым адбыўся літаратурны вечар.**

**НА ЗДЫМКУ: кветкі да помніка А. Пушкіну ўскладваюць маладыя Ганна і Дзмітрый ЦЯРЭШЧАНКІ. Доўгія гады яны сустракаліся ля помніка, а ў дні Пушкінскага свята адгулялі вяселле.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

# ДУХОЎНАЯ СПАДЧЫНА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

валі. Сталінскія прыслужнікі імкнуліся выкрасліць з памяці нашчадкаў добрыя справы акадэміка Г. Гарэцкага. "БНДІ лясной і сельскай гаспадаркі, створаны вучоным Г. Гарэцкім, не ўпамінаецца ні ў адной савецкай энцыклапедыі", — з горыччу адзначыў Радзім Гарэцкі. Член-карэспандэнт НАНБ Міхась Мушынскі выступіў з дакладам "М. Гарэцкі — публіцыст. Вядомы і малавядомы", дзе асвятліў надзвычай цікавую публіцыстычную спадчыну Максіма Гарэцкага. У 20-я гады М. Гарэцкі напісаў шмат публіцыстычных артыкулаў ("Будзем жыць", "Новая буржуазія", "Тутэйшае жыццё", "Змагайцеся", "Балючае пытанне" і інш.). Праблемы, якія ўзнімаў М. Гарэцкі ў сваёй публіцыстыцы, настолькі актуальныя, падкрэсліў М. Мушынскі, што здаецца, гэта напісана сёння. Як, напрыклад, артыкул "Змагайцеся!" (1920), у якім пісьменнік адзначаў, што наша несвядомасць і нядбайнасць — наш галоўны вораг. "Праз нашу несвядомасць і нядбайнасць з намі робяць, што хочуць". У артыкуле "Аб урадах на Беларусі" М. Гарэцкі фактычна даводзіць законнасць БНР.

Міхась Мушынскі адзначыў аналітычны характар публіцыстыкі М. Гарэцкага і яе гуманістычную скіраванасць.

Невядомай публіцыстыцы М. Гарэцкага 1918—1919 гадоў быў прысвечаны і даклад Віталя Скалабана (г. Мінск).

Перад удзельнікамі Гарэцкіх чытанняў была пастаўлена задача — глыбока вывучыць і даследаваць багатую і разнастайную публіцыстыку М. Гарэцкага.

Важную праблему недакладнасці ў перакладах твораў М. Гарэцкага на рускую мову ўзняла ў сваім выступленні дачка Максіма Гарэцкага Галіна Максімаўна, якая, дзякаваць Богу, заўсёды прыязджае з Санкт-Пецярбурга на Гарэцкія чытанні і слухаць якую — проста асалода.

Выдатнае веданне бацькавай літаратурнай спадчыны, дасціпнасць і гумар (адчуваюцца гарэцкія карані), уменне гутарыць з любой аўдыторыяй (і з навукоўцамі, і з дзеткамі-школьнікамі), да таго ж надзвычайная сціпласць, абаяльнасць, мудрасць — усе гэтыя якасці ўласцівыя Галіне Гарэцкай. Такой мы ўбачылі дачку пісьменніка і з першай сустрэчы палюбілі яе.

Думкі-летуценні бацькоў перадаюцца наступным пакаленням праз нашчадкаў. Алеся Бабарэка, дачка рэпрэсіраванага беларускага пісьменніка і літаратуразнаўцы Адама Бабарэкі, у дакладзе "М. Гарэцкі — абаронца людской годнасці" падкрэсліла гуманізм, чалавекалюбства М. Гарэцкага, яго адданасць беларускай ідэі і горкае прызнанне: "Ці думаў я, што любоў да матчынай мовы зробіць мяне контррэвалюцыянерам..." І нягледзячы ні на што, — аптымізм Беларуса: "Трэба жыць і хваліць моц жыцця!"

Архіўныя знаходкі літаратуразнаўцы і пісьменніка Мікалая Ількевіча са Смаленска заўсёды выклікаюць цікавасць гарэцказнаўцаў. Яго артыкулы і даклады, прысвечаныя М. Гарэцкаму, дакументальная аповесць "Душа двоилась" ужо добра вядомыя навукоўцам і настаўнікам. На VII Гарэцкіх чытаннях М. Ількевіч выступіў з дакладам "М. Гарэцкі і Я. Купала: кантакты са Смаленскай вучонай архіўнай камісіяй. 1918." Архіўныя матэрыялы, знойдзеныя М. Ількевічам, пацвярджаюць, што М. Гарэцкі звяртаўся ў Смаленскую вучоную архіўную камісію з просьбай дазволіць яму і Янку Купалу карыстацца кнігамі бібліятэкі архіўнай камісіі, але прашэнне было адхілена 16 чэрвеня 1916 года. Шмат загадак яшчэ ў смаленскіх архівах, дапамажы, Божа, іх разгадаць такім дапытлівым даследчыкам, як М. Ількевіч.

Кандыдат навук Лявонцій Гаранін (г. Мінск), даследуючы праблемы этнічнай і нацыянальнай самасвядомасці ў творчасці М. Гарэцкага па матэрыялах "Камароўскай хронікі", прасачыў развіццё роду Гарэцкіх, вернасць родавым адносінам, незгасальную волю да жыцця, паказаў, што барацьба за духоўнасць, традыцыі, нацыянальную свабоду ў Гарэцкіх была дамінуючай.

Аб дзейнасці БСРГ (Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады) і створанага ў 1926 годзе ў Мінску камітэта па сувязях з замежжам (у яго ўвайшлі З. Жылуновіч, А. Некрашэвіч, М. Гарэцкі), аб паездцы Некрашэвіча і Гарэцкага ў Заходнюю Беларусь расказала ў сваім дакладзе Ганна Запартыка "Браты Гарэцкія ў актах польскай палітычнай паліцыі. 1926 г."

Цікавымі ўспамінамі пра Гаўрылу Гарэцкага падзялілася Роза Зінава (г. Мінск), якой давялося працаваць побач з гэтым выдатным вучоным. На ўсё жыццё запомніла яна, геолаг, аспірантка, словы Гаўрылы Іванавіча: "Абараняйцеся і вяртайцеся на Радзіму. Беларусы павінны працаваць на Радзіме". Ён, як і яго брат Максім, марыў бачыць Беларусь самастойнай і незалежнай.

Пасля пленарнага пасяджэння пачалася праца секцый.

Старшынствуючыя на секцыях кандыдаты навук Лявон Гаранін і Міхась Канька на заключным пасяджэнні адзначылі, што ўсе даклады былі цікавымі і змястоўнымі, бо аўтары — і навукоўцы, і настаўнікі, і студэнты, і вучні — гэта шчырыя прыхільнікі таленту М. Гарэцкага. Відаць, сапраўды, як сказаў аднойчы М. Мушынскі, "Бог дае натхненне тым, хто займаецца спадчынай закатаваных". Паэтыка, сімволіка, жанр, стыль, праблематыка твораў М. Гарэцкага настолькі багатыя, што даследаванне іх прыносіць эстэтычную асалоду і задавальненне кожнаму з нас. Матэрыялы Гарэцкіх чытанняў будуць выдадзены асобным зборнікам — гэта добрая магчымасць прыцягнуць увагу грамадскасці Беларусі і замежжа да вывучэння жыцця і творчасці Максіма Гарэцкага, гэтага, па словах Л. Гараніна, "вялікамучаніка ў беларускай літаратуры".

Дакрануцца душой і сэрцам да вытокаў гэтага самабытнага таленту Беларуса нам дапамагла ў мінулым годзе паезда ў вёску Малая Багацькаўка, а сёлета — на радзіму жонкі М. Гарэцкага Леанілы Чарняўскай у в. Таргуны Докшыцкага раёна. Гэтай незабыўнай паездкай завяршыліся VII Гарэцкія чытанні. І засталася ў душы радасць ад узаемін з выдатнымі людзьмі, прадстаўнікамі беларускай навукі і культуры, цікавымі і дасціпнымі субяседнікамі.

Засталася і горыч ад таго, што і сёння не ўмеем захоўваць нашу спадчыну: высякаюць ліпы, пад якімі сустракаліся Максім і Леаніла, ды і мядовы водар ліпавай алеі не вельмі адчуваецца побач з жывёльным дваром...

Ніхто не паклапаціўся, каб зрабіць гэты куточак запаведным. Прадметы матэрыяльнай культуры знішчылі бязлітасныя войны і рэвалюцыі.

Але духоўная спадчына засталася. У Докшыцах мы асабліва востра адчулі духоўную еднасць беларусаў з усходніх і заходніх "крэсаў" нашай Бацькаўшчыны. І шлюб Леанілы з Максімам — сімвал гэтай еднасці.

І вось заключны канцэрт-сустрэча ў Докшыцкім раённым Доме культуры. Перад землякамі Леанілы Чарняўскай выступілі з цікавымі ўспамінамі яе дачка Галіна Гарэцкая, пляменнік Радзім Гарэцкі, Алеся Бабарэка, пісьменнік Леанід Левановіч, паэты Алесь Пісьмянкоў і Леанід Дранько-Майсюк. У канцэрце бралі ўдзел вядомы жаночы квартэт "Святлана" са Стаўбцоўшчыны і самадзейны мужчынскі вакальна-інструментальны калектыў з Докшыцкага раёна.

Нас зноў уразіла таленавітасць беларускіх людзей: высокі прафесіяналізм і надзвычайная адухоўленасць у песні прыгажунь дзяўчат са "Святланы", і майстэрства старэнькага селяніна, што граў на скрыпцы і спяваў "Рабіну-рабіначку", і маладога хлопца, што шпарыў частушкі... А музычныя інструменты! І бубен, і пранік, і грабянец, і, вядома ж, гармонік — усё грае ў руках нашых таленавітых землякоў.

Багатая і высакародная душа ў нашага народа. Таму і нараджаюцца на нашай зямлі такія волаты духу, як Максім Гарэцкі, і такія чароўныя і мужныя жанчыны, як Леаніла Чарняўская.

А ў мяне пад уражаннем убачанага нарадзіліся ў сэрцы наступныя радкі:

**Леаніле Чарняўскай**

**Як красуня Неферціці**
**З берагоў чароўных Ніла,**
**У Таргунах калісь свяціла**
**Прыгажуня Леаніла.**

**Ліпы водарам мядовым**
**Сустракалі вечарамі.**
**Тут была жыцця аснова,**
**Сёстры любыя з братамі.**

**Палящела, нібы птушка,**
**У свет дзяўчынка Леаніла,**
**Дык няхай квітнеюць ружы**
**На зямельцы гэтай мілай,**

**Каб у памяці нашчадкі**
**Захавалі вобраз слаўны**
**Той паэтавай загадкі —**
**Беларускай Яраслаўны.**

**Эльвіра ЯРЧАК.**

**Светламу дню нараджэння Янкі Купалы — 7 ліпеня — папярэднічаюць 56-я жальбінныя ўгодкі: 28 чэрвеня 1942 года трагічна загінуў у Маскве Іван Дамінікавіч. Але для святога ўспомнення гэтыя дзве даты роўныя для нашай высокай пашаны. Памяць аб геніі нацыянальнага духу — не толькі ў любові. Мы сплачваем доўг перад ім сваёй грамадзянскай чыннасцю. І наш помны абавязак — здзяйсняць мары Паэта, запаветы Прарока, доўжыць распачатую ім адбудову роднага Гаспадарства.**

*З ЦЫКЛА "МОЙ КУПАЛА"*

# У ЦЭНТРЫ СЛЫХУ*

"Перуновым голасам будзем гаварыць з суседзямі сваімі, бліскавічнымі літарамі будзем упісваць сваю гісторыю ў векавечную кнігу гісторыі народаў".

**Мяне вядзе наканаванне**
**вясной жыцця, смугой дарог.**
**Яшчэ не час, яшчэ не ў стане**
**адчуць, а што я не збярог**
**з таго, што лёсавызначальна**
**было намоўлена ў душу.**
**І службу споўніць велічальна**
**адчайна ў неба я прашу.**
**Хачу адчуць: у чым, наколькі**
**грахоўнасцю сасмяг і змяк...**
**Штогод мацней пякуцца болькі,**
**прыдушвае зглушэлы зляк.**
**Нясу пакутную камлыгу**
**праз немаёвыя лугі,**
**кіруюся да Цэнтра Слыху,**
**бо немач — вось яна: глухі...**
**І каб лятальны скок не вызнаў,**
**ад варажэяў не ўчадзеў, —**
**мяне да Цэнтра Слыху выслаў**
**ратоўны лёс: шукаць спадзеў.**
**А жальбы мітусяцца, енчаць;**
**дух не мацуюць: кволяць, мнуць**
**і фібры галаснікоў калечаць.**
**Кара лапцюжнасці не лечыць:**
**пад ёю вольна не ўздыхнуць.**
**Узнесціся б над памарокай**
**і над цянётамі паўстаць!**
**Уся краіна — Камароўкай!**
**.........................**
**Даследуе купалазнаўца:**
**сляпым-глухім пагардна спаць.**
**Пад коўдрай крыўды —**
**не ўскрычаць.**

**А безграмадным заставацца —**
**ніколі чуйнасці не знаць.**
**Калі ж у Цэнтры Слыху стаць, —**
**усё чуваць, усё відаць.**
**У Цэнтры Слыху, Цэнтры Болю**
**агмень нязломнасці не згас.**
**Там — водар волі на прыпас.**
**А не гатовы ты да бою**
**за непахлёбкавую долю, —**
**не ўзважыцца святляны час.**
**Да Цэнтра Слыху, Цэнтра Мовы**
**пераплывайма Рубікон!**
**Калі — Айчынай — быць**
**гатовы, —**
**сарві намоўныя аковы;**
**а хочаш выйсці на амбон, —**
**святло планіды стаў на кон!**
**Дваццаты век тады дапіша**
**у курс дзяржаўнага руля:**
**"Гэй, стырнавыя! Крыж —**
**на стрыжань!**
**Вы ў Цэнтры Голасу-Узвіжжа,**
**дзе рэха коціцца здаля".**
**А сыдзе Беларусь з Галгофы,**
**забліскавічыцца апокрыф**
**з-пад запрадажнае дрыгвы:**
**"Пры плоце мне не быць**
**гарохам,**
**каля дарог — ніжэй травы..."**
**Складаю Госпаду маленне:**
**— Дазволь мне Сола**
**прасвятлення,**
**каб у харале пакаленняў**
**звінеў задор маёй душы;**
**спаўна нямоце паслужыў.**
**І суайчынніка з глушы**
**вярні і псалмы падскажы**
**на ажыўленне промняў-звенняў...**
**Нам**
**Цэнтр Слыху**
**зберажы!**

**P. S.** "З квяцістымі сонечнымі думкамі, з нязломнай верай у лепшую долю і волю пойдзем усе наперад і наперад пад святым сцягам вольнай Беларусі".

**Янка Купала. 1920 г.**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

* Ахвяруецца Алене Восіпаўне Грамыка.

**УСПАМІНАЙМА ПРА ІХ!**

# Варлен БЕЧЫК

...На фотаздымку VI з'езда пісьменнікаў Беларусі ўсе трое яны такія зусім маладыя... Нехта з іх, відно, сказаў нешта імпэтнае — і ўсе заліліся смехам.

Жэня Янішчыц, Грыша Семашкевіч, Варлен Бечык.

І вось ужо іх няма. Ніводнага. Адышлі... Нікога не стрэнеш. Не павітаешся... "Уж сколько их упало в эту бездну, разверстую вдали" (Марына Цвятаева).

...Толькі падыдзеш да кніжнай паліцы, здымеш кнігу, пагартаеш, перачытаеш знаёмыя старонкі, радкі...

**Пара любові і жалю.**
**Ганчарны круг.**
**Свет жывы і блізкі.**

Толькі кнігі — і дзіўна, смутак як быццам непрыкметна адступае. І нібыта вядзеш з імі бязмоўную гаворку. Глядзіш у вочы. Чуеш іх галасы...

"Я ўсё больш і больш схільны думаць, што жыццё з усімі яго нават пакутамі — гэта шчасце".

...На каго ён быў падобны — Варлен Бечык?

Чый твар, чыё, дакладней, аблічча нагадвае яго такі адкрыты, даверлівы, чысты позірк і твар з вокладкі яго "Выбранага"?. Успамінаю, уяўляю, параўноўваю... Ну, вядома ж, таксама малады яшчэ Шастаковіч! І падабенства не ў адных толькі "падобных" акулярах. Найперш п о з і р к! Насустрач с в е т у ж ы в о м у і б л і з к а м у... Такую назву ("Свет жывы і блізкі") даў Варлен Бечык і адной сваёй кнізе "Выбранага" (1989 год) — так пашаноўна выдадзенай пасля яго смерці — пры жыцці, вядома ж, ён не пабачыў... Пры жыцці пісьменніка часцей суправаджае а п а с к а... залішне перадаць яму славы і павагі, "захваліць", занадта ўзвялічыць... Дарэмна! П а с л я, як ён а д ы д з е, усе ўзнясенні і хвалы яму непатрэбныя. Р а д а с ц ь і ў з н а г а р о д а — выданне кнігі! — патрэбны пісьменніку пры жыцці.

Варлен Бечык выступаў у друку з крытычнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі з 1959 года. Вось яго кнігі, якія ўбачылі свет, узбагацілі і ўсцешылі новым таленавітым словам зацікаўленага чытача: "Свет жывы і блізкі" (1974), "Шлях да акіяна" (1981) — кніга пра паэзію Аркадзя Куляшова, "Прад высокаю красою" (1984). Бечык напісаў кнігу, прысвечаную памяці беларускіх паэтаў, якія загінулі ў гады Вялікай Айчыннай, "Радзіме — пасмяротна — радок і жыццё" (1986), "Выбранае" (1989).

Варлен Бечык — таксама пасмяротна — быў названы лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Івана Мележа за кнігу "Перад высокаю красой"...

Вось адзін толькі прыклад датклівай і натхнёнай у л а д ы над словам, якая нябёсамі дараваная была крытыку і літаратуразнаўцу Варлену Бечыку.

"Добры дзень, мама!

Вясна творыцца і мацнее. І ўсё больш авалодвае яна душой — як надзея і радасць і як новая занепакоенасць і трывога, што заўсёды прыходзіць з вясною... І з кожнай новай вясною ўсё мацней шчыміць, што час хуткаплынны... І расце шкадаванне, што не так жыў, што не так жывеш і будзеш не так жыць... Але свет не звужаецца, а прасторнее — больш надзей, планаў і ахвоты да спраў, і, здаецца, — вось раскрыюцца новыя далягляды... А яшчэ я люблю сакавік за тое, што ў ім твой дзень нараджэння, мама... Я вельмі ўдзячны табе, мама, што ты вучыла мяне любіць паэзію. Што творы нашых лепшых паэтаў я пачуў з тваіх вуснаў. Хочацца гаварыць з табою, раіцца і разам радавацца кожнаму новаму адкрыццю..." ("Сакавіцкія пісьмы").

Так ён пісаў, як жыў. І жыў так, як пісаў.

Варлен Бечык нарадзіўся 25 ліпеня 1939 года. Памёр у лістападзе 1985 года.

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

## СА СТАРОГА КУФРА

# ВАЎКАВЫСКА-КАМЯНЕЦКІЯ СТРОІ



Ваўкавыска-камянецкія строі — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення на Панямонні; бытавалі ў асяроддзі сялян і дробнай шляхты ў Ваўкавыскім, Пружанскім і Камянецкім раёнах. Гарнітур жаночага летняга адзення складаўся з кашулі, спадніцы, фартуха, гарсэта (неабавязковая частка гарнітура), пояса, галаўных убораў і ўпрыгажэнняў. Кашуля мела глыбокі разрэз пазухі і высокі стаячаадкладны каўнер. Удоўж рукавоў і па цэнтры кашулі чырвонымі або чырвона-чорнымі ніткамі (горынь) вышывалі раслінныя, зааморфныя і геаметрычныя ўзоры. Сакавітасцю бурачковых, малінавых, фіялетава-сініх фарбаў, арнаментальнай узорыстасцю нізу вылучаліся спадніцы-андаракі з вертыкальнымі складкамі. Арнамент яркіх кантрастных паскаў і клетак дапаўняўся разнаколернымі пальметамі (зоркамі, кветкамі), раскіданымі ўздоўж ніжняй дамінуючай палосы шляка. Фартух шылі з адной (радзей дзвюх) полак белай ільняной тканіны ці паркалю, аздаблялі фальбонамі, вышыўкай процягам або гладдзю геаметрычнага ці расліннага арнаменту. Гарсэт шылі з чорнай шарсцянкі, аздаблялі паліхромнай вышыўкай расліннага арнаменту, каляровай аблямоўкай зрэзаў верхняга крыса, проймы і гарлавіны. Традыцыйныя галаўныя ўборы (наміткі, чапцы, каптуры) шылі з чырвонага ці сіняга паркалю, шарсцянкі або бардовага атласу, аздаблялі тасёмкай бліскучага жоўтага галуну і гафрыраваным паскам белага цюлю.

Дзяўчаты завязвалі разнаколерныя хусткі, да якіх з левага боку мацавалі букецік жывых або штучных кветак. Шыю ўпрыгожвалі бісернымі пацеркамі, стужкамі, рукі — пярсцёнкамі-жуковінамі.

Аснову мужчынскага летняга адзення складалі кашуля, нагавіцы, даматкaны разнаколерны пояс. Кашулю з адкладным каўняром сціпла аздаблялі чырвонай вышыўкай на каўняры і падоле. Нагавіцы шылі з суровага палатна або з пярэстай (у клетку, паскі) паўшарсцянкі.

Мужчынскае і жаночае верхняе адзенне складалі світы-сярмягі, курткі, кажухі і інш. Адмысловасцю крою і апрацоўкі вызначаліся фалдзістыя світы, сярмягі з адразной лініяй таліі. Удала спалучаліся з кроем дэкаратыўныя складкі, нашыўкі чорнага аксаміту, узоры раслін, спіралей, простых ліній.

**Падрыхтаваў да друку Дзяніс РАМАНЮК.**

## НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ

# ПОШТА — ЗА АХОВУ РОДНАЙ ПРЫРОДЫ

Ахова прыроды — праблема веку — набыла дзяржаўнае і планетарнае значэнне. Паводле даных Міжнароднага саюза аховы прыроды і прыродных рэсурсаў, з 1600 па 1970 год пад уздзеяннем неразумных дзеянняў чалавека на нашай планеце спыніла існаванне 36 відаў млекакормячых і 94 віды птушак. Сёння пад пагрозай знікнення знаходзіцца больш 600 відаў "братоў нашых меншых".

Да 1981 года была створана і ў Беларусі рэспубліканская Чырвоная кніга, у якую ўнесена 80 відаў жывёл і 85 — раслін.

У 1993-м выйшла ў свет абноўленая і дапоўненая Чырвоная кніга Рэспублікі Беларусь. Калі над кнігай 1981 года працавала 23 аўтары, то новую стварылі 57 вучоных.

Яшчэ ў працэсе стварэння Чырвонай кнігі былі выпушчаны тры мастацкія канверты з надпісам "З Чырвонай кнігі Беларусі". На малюнках паказаны сон-трава — рэдкая расліна, якая знаходзіцца пад пагрозай знікнення, пярэсна еўрапейская — рэдкі від флоры ў рэспубліцы і птушка драфа, якая яшчэ ў пачатку стагоддзя сустракалася ў ваколіцах Гродна, Пружан, на Піншчыне, Случчыне.

У новую Чырвоную кнігу рэспублікі ўключаны 182 жывёліны, 180 раслін — усяго 396 аб'ектаў жывой прыроды.

У 1993 годзе пошта рэспублікі выпусціла першыя чатыры маркі, прысвечаныя птушкам з Чырвонай кнігі. Гэтай серыяй пошта Беларусі ўключылася ў высакародную справу — ахову роднай прыроды. На працягу апошніх гадоў выйшла некалькі серый аб прыродзе рэспублікі. Нельга не адзначыць, што выпускі гэтыя вельмі цікавыя. Пацвярджэнне таму — апошняя серыя марак беларускай пошты — "Пеўчыя птушкі, занесеныя ў Чырвоную кнігу Беларусі". З 75 відаў птушак, змешчаных у Чырвонай кнізе рэспублікі, пяці з іх прысвечана чарговая серыя марак. На мініяцюрах паказаны: пералётная і скрытная варакуша, што жыве паблізу вадаёмаў; пералётная і рэдкая вёрткая чарацянка, якая сустракаецца толькі на поўдні рэспублікі; аселая белая блакітніца, ці князёк, што насяляе ліставыя лясы поўдня Беларусі; пеўчы рэмез звычайны, які насяляе зараснікі вербалозу на поўдні рэспублікі; пералётны рэдкі салаўіны цвыркун. Аформіў серыю мастак Г. Долбік. Маркі выпушчаны не толькі асобнай серыяй, але і ў так званых малых лістах, на палях малога ліста надпіс "Пеўчыя птушкі, занесеныя ў Чырвоную кнігу Беларусі".

У дзень выхаду марак у паштовае абарачэнне на галоўнай пошце сталіцы прымянялася спецыяльнае гашэнне.

Філатэлісты рэспублікі з вялікай цікавасцю сустрэлі новую серыю маляўнічых марак, якія расказваюць аб роднай прыродзе.

**Леў КОЛАСАЎ.**




## НОВАЕ ВЫДАННЕ

# ДА ДЗЯЦЕЙ — З ЛЮБОЎЮ




На пачатку лета на Беларусі з'явіўся новы дзіцячы часопіс "Качели", заснавальнікам якога стаў Беларускі фонд "Мы — дзецям". Выданне разлічана на хлопчыкаў і дзяўчынак 9—13 гадоў і плануе не толькі друкаваць на сваіх старонках цікавыя апавяданні, вершы, загадкі, шарады, але і арганізоўваць сустрэчы-гутаркі з цікавымі людзьмі і, канешне ж, весці перапіску з чытачамі. Часопіс вельмі маляўнічы, з мноствам пацешных, вясёлых карцінак і фотаздымкаў — тут ужо пашчыраваў мастак Уладзімір Дубовік. Галоўны рэдактар выдання — журналістка Кацярына Дубінская.

Ва ўступным артыкуле прэзідэнт фонду "Мы — дзецям" Уладзімір Грыдзюшка адзначыў: "Дзецям заўсёды патрэбна абарона і клопат дарослых. У сённяшні няпросты час — асабліва. Беларускі фонд "Мы — дзецям" не ў стане цалкам узяць на сябе ўвесь клопат па ахове дзяцінства, але ён можа ажыццяўляць розныя праекты і праграмы". Адна з такіх задум — часопіс "Качели". Поспехаў!

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

# ШЧАСЛІВЫ ДЗЕНЬ БРЭСТА

Небывала "ўраджайным" аказаўся дзень 16 чэрвеня для горада Брэста. Толькі за адны суткі тут нарадзілася 24 маленькія жыхары, што істотна перавысіла ўсе сярэднясутачныя паказчыкі нараджальнасці апошніх гадоў. Штодзённа ў горадзе над Бугам з'яўляецца на свет 10—16 немаўлят, і дэмаграфічны выбух узрадаваў медперсанал мясцовага радзільнага дома, не кажучы ўжо пра саміх бацькоў.

# ДАПАМАЖЫЦЕ, СУАЙЧЫННІКІ!

Звяртаюся да вас у апошняй надзеі ратаваць жыццё майго сына...

Мой сын Юрый два гады назад захварэў на злаякасную гісцыяцытому (фіброзную) скуры і мяккіх тканак з метастазамі на лёгкіх (памер 0,2—0,5 сантыметра). Гэтае анкалагічнае захворванне — вынік аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Юра прайшоў курс хіміятэрапіі, яму зрабілі аперацыю, правялі прамянёвую тэрапію. На вялікі жаль, лячэнне не дало станоўчых вынікаў.

А нашы спецыялісты лічаць, што такую хваробу з поспехам можна вылечыць, і робяць гэта ў клініках на Захадзе.

Паслаць туды сына не маю сродкаў. Таму і звяртаюся да добрых людзей: можа хто возьме майго Юру на лячэнне? Яму ўсяго 13 гадоў, а жыццё хлопчыка пад смяротнай пагрозай.

З надзеяй буду чакаць любыя прапановы.

**Генадзь МАСАЛЬСКІ.**

Мой адрас: **вул. Садовая, д. 13,
гарадскі пасёлак Зялёны Бор,
Смалявіцкі раён Мінскай вобласці,
222218, Беларусь.**

Можна званіць на тэлефоне: мне — (8-275) 68-5-95
або сястры Людміле ў Мінск — 259-01-63 (хатні),
234-64-34 (рабочы).

**Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**



**НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект
Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15, 284-76-56,
213-37-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 835 экз. Індэкс 63854. Зак. 1119.
Падпісана да друку 29. 06. 1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.**